



# Рэгіянальная газета

25 студзеня 2013 года
№ 4 (926)




http://rh.by

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".




**"Рэгіянальная газета" мяняецца**

*Добры дзень, паважаны чытач! Дызайн і вёрстка сённяшняга нумара ненашмат, але адрозніваецца ад ранейшых. Няхай цябе гэта не бянтэжыць. Мы паступова мяняем змест і выгляд нашай газеты толькі дзеля таго, каб газета была больш зручнай для цябе і тваіх блізкіх. А ўсе магчымыя пажаданні і заўвагі гатовыя выслухаць і абмеркаваць у нашым калектыве.*

**З павагай
Аляксандр МАНЦЭВІЧ,
галоўны рэдактар "РГ".**

**навіны рэгіёна**

## У Маладзечне можна пагрэцца гарбатай

Фота Аляксандра ПАРАХНІ.

Дзяўчынкі грэюцца ў палатцы.

**МАЛАДЗЕЧНА.** У мароз ніжэй за 15 градусаў маладзечанцаў на Цэнтральнай плошчы чакае бясплатная гарачая гарбата і салдацкая каша. Таварыства Чырвонага Крыжа разам з салдатамі арганізавалі палатку, дзе могуць пагрэцца жыхары горада, а таксама бяздомныя людзі.

## У маразы шмат пажараў. Будзьце пільныя!

**ВІЛЕЙКА.** У аўторак, 22 студзеня, адбыліся два пажары. Раніцай пажар узнік у доме 69-гадовай пенсіянеркі ў вёсцы Урэчча Нарачанскага сельсавета. Днём загарэлася лазня шматдзетнай сям'і ў пасёлку Партызанскі Ільянскага сельсавета. Падчас маразоў асабліва моцная пажаранебяспечная абстаноўка ў прыватных дамах. Паводле статыстыкі, у такі перыяд колькасць пажараў павялічваецца на 45%. Не выкарыстоўвайце няспраўнае пячное ацяпленне і самаробныя награвальныя прыборы. Іншыя парады па бяспецы жылля ў маразы чытайце на сайце rh.by.

**Алег ГРЫНЕВІЧ,
інжынер дзяржаўнага пажарнага нагляду Вілейскага райаддзела па надзвычайных сітуацыях.**



# Як зрабіць кілаваты таннейшымі?

Фота Анатоля БАШЛАКОВА.

Так крадуць электраэнергію — у абход лічыльніка.

**ВІЛЕЙКА. Падчас праверкі работнікі энерганагляду нярэдка сутыкаюцца з крадзяжамі электраэнергіі, але не ўсе гэтыя выпадкі выяўляюць.**

Дзяржаўны інспектар Вілейскага энерганагляду **Ігар Місюль** дае парады, як зэканоміць электраэнергію.

### 24 крадзяжы энергіі за месяц

За студзень злавілі 24 раскрадальнікаў электраэнергіі. Яны накралі больш чым 100 тысяч кілават. Страты за гэтыя крадзяжы нясе энергасістэма, а ён больш за 32 мільёны рублёў.

Летась па Вілейскім раёне правялі звыш 140 рэйдаў, падчас якіх выявілі больш за 140 выпадкаў крадзяжоў электраэнергіі – гэта 95 мільёнаў рублёў.

### Крадуць энергію па-рознаму

Адзін мужчына змайстраваў адвод, які пацягнуў энергіі больш чым на тры мільёны рублёў.

Другі накінуў правады на лінію электраперадач, што пацягнула энергіі на 10 мільёнаў рублёў.

Некаторыя спыняюць дыск лічыльніка праз дзірку. Адзін мужчына з Лыцавічаў такім чынам "зэканоміў" на 1,3 мільёна рублёў.

– Кошт штрафу вылічваецца па колькасці і магутнасці электрапрыбораў, – кажа Ігар Місюль. – Але можна абысціся і без крадзяжу электраэнергіі. Увесь сакрэт ў тым, каб правільна яе эканоміць.

### Сакрэты эканоміі электраэнергіі

– Напрыклад, вы набываеце тэлевізар, – тлумачыць дзяржінспектар энерганагляду. – Ён, вядома, спажывае электраэнергію. Трэба ўважліва пагледзець, ці ёсць на ім зялёны індэкс. Ён пазначае, што тавар энергазберагальны. І пры карыстанні ім будзе цягнуць менш кілават.

Таму, набываючы такія тавары, звяртайце ўвагу, колькі электраэнергіі яны пацягнуць.

### Якую лямпачку купляць?

Што тычыцца лямпачак, то тут трэба звяртаць увагу на лацінскія літары, якія на іх пазначаныя. Калі на ёй літары А ці В – гэта энергазберагальныя лямпачкі, а калі пазначана Е – значыць лямпачка напальвання.

– Некаторыя людзі набываюць мясарубкі, – гаворыць Ігар Місюль. – І лічаць, што калі яна 800 Вт, а не 600, то будзе лепш здрабняць. У мяне мясарубка "Памочніца" на 125 Вт. Я яе яшчэ на талоны набываў. І пакуль мяне ні разу не падводзіла за гэты час!

### Лепш электронныя лічыльнікі

Як запэўнівае Ігар Місюль, электронныя лічыльнікі маюць перавагу.

Дзякуючы ім можна добра зэканоміць. Яны разлічваюць электраэнергію па мінімальным і максімальным тарыфе. Мінімальны дзейнічае ад 22 да 17 гадзін і каштуе 192 рублі за кілават/гадзіну, максімальны дзейнічае ад 17 да 22 гадзін, тарыф – 548 рублёў.

– Такі лічыльнік каштуе 550 тысяч рублёў, але ён хутка акупіцца, – пераканаены дзяржінспектар энерганагляду. – Галоўнае, правільна ім карыстацца. Паглядзеў, напрыклад, хакей вечарам і ўключыў пральную машынку пасля 22. Тады яна працуе па мінімальным тарыфе.

А халадзільнік працуе суткамі. Вось і атрымліваецца, што 19 гадзін у сутки ён працуе па мінімальным тарыфе і толькі пяць гадзін – па максімальным.

Калі казаць пра звычайныя лічыльнікі, то яны працуюць па бытавым тарыфе – 323 рублі за кВт/гадзіну. А ў 2015 годзе гэты тарыф будзе каштаваць па сабекошце, але якая гэта сума, пакуль не вызначылі.

Самым дарагім тарыфам цяпер лічыцца тарыф для ацяплення – 969 рублёў за кВт/гадзіну.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**

# Памёр адраджэнец, археолаг і гісторык Міхась Чарняўскі

**20 студзеня пасля цяжкай і працяглай хваробы памёр ветэран адраджэнскага руху, гісторык і археолаг, наш зямляк і сябар "Рэгіянальнай газеты" Міхась Чарняўскі.**

Міхась Чарняўскі нарадзіўся 7 сакавіка 1938 года ў вёсцы Круці Мядзельскага раёна.

Будучы гісторык і археолаг з дзяцінства хацеў падарожнічаць. Вось што ён расказваў у інтэрв'ю нашай газеце пазалетась: "Мяне вабіў далягляд. Любіў стаць на пагорак і ўзірацца ўдалячынь, а там віднеліся сіняватыя лясы. І мне заўсёды хацелася паглядзець, што за імі. Цікава было, што за камяні ў мяне пад нагамі. Хацелася пра гэта ўсё даведвацца, адкрываць нешта ў зямлі."

Міхась Чарняўскі зведаў шмат цяжкасцяў пасляваеннага жыцця. Бацька Міхася быў ляснічым. "Тады ў лясніцтва прывозілі малочны парашок у амерыканскіх мяшках са шчыльнай паперы, – расказваў "Рэгіянальнай газеце" Міхаіл Міхайлавіч. – Калі парашок скарыстоўвалі, заставаліся мяшкі, з якіх мама сшывала мне сшыткі. І я быў адзіны, хто меў сшытак. Астатнія пісалі хто на чым: на старых польскіх сшытках, на кнігах, на польскіх ці нямецкіх газетах. Ужо была лямпа, а не лучына, і вось з лямпы саскрабалі сажу, з якой атрымлівалася добрае чорнае чарніла. Пёры і чарнільніцы былі польскія, а графітавыя дошкі ў класах – дарэвалюцыйныя. У школу было холадна хадзіць, яна стаяла за два кіламетры, а па дарозе траплялася шмат ваўкоў".



Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

**Міхась Чарняўскі на Мядзельшчыне. Вёска Чэхі. 2006 год.**

У 1960 годзе Міхась Чарняўскі скончыў Мінскі педагагічны інстытут. Ад 1962 года быў сярод удзельнікаў так званага "Акадэмічнага асяродку" – нефармальнай арганізацыі маладых навукоўцаў і літаратараў, дзейнасць якой была прасякнутая адраджэнскімі настроямі і патрапіла пад пільнае вока савецкіх спецслужбаў. З сярэдзіны 1960 гадоў уваходзіў у творчае аб'яднанне мастакоў "На паддашку".

З 1966 года – навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі Акадэміі Навук Беларусі. Пасля разгрому "Акадэмічнага асяродку" ў 1970-х гадах быў звольнены з АН БССР, працаваў рознарабочым. Пазней зноў працаваў у інстытуце гісторыі АН. У 1990-2001 – загадчык аддзела археалогіі каменнага і бронзавага вякоў. Выкладаў у БДУ.

Дзякуючы Міхасю Чарняўскаму Беларусь даведалася аб пасляваенным моладзевым антысавецкім падполлі ў нашым рэгіёне, адной з ключавых фігур якога быў ураджэнец Касуты ля Вілейкі Расціслаў Лапіцкі, пазней расстраляны савецкімі карнымі органамі ля Чырвонага Беражка. Аб лёсе Лапіцкага Міхась Чарняўскі пісаў у канцы 1990-х у "Рэгіянальнай газеце". Пазней даследчык выдаў біяграфічную кнігу аб Лапіцкім "Як пошуг маланкі".

Як навукоўца Чарняўскага цікавілі матэрыяльная і духоўная культура плямён каменнага і бронзавага вякоў на тэрыторыі паўночна-заходняй Беларусі, першабытнае мастацтва на тэрыторыі Беларусі. Ён праводзіў раскопкі помнікаў фінальнага палеаліту, мезаліту і неаліту ў басейнах Нёмана і Віліі, першабытных стаянак Крывінскага тарфяніку на Віцебшчыне. Вывучаў крэменездабыўныя шахты каля г.п. Краснасельскі і в. Карпаўцы Ваўкавыскага раёна, шэраг помнікаў бронзавага веку Панямоння. Вылучыў нёманскую культуру, крывінскі варыянт нарвенскай культуры. Даследаваў сярэдневяковы г. Мядзел (1982), замак у Лоску Валожынскага раёна (1987, разам з Зянонам Пазняком).

Аўтар навуковых, навукова-папулярных і празаічных твораў. Адзін з аўтараў «Нарысаў па археалогіі Беларусі» (ч. 1, 1970), кнігі «Беларуская археалогія: Дасягненні археолагаў за гады Савецкай улады» (1987), «Гісторыі беларускага мастацтва» (т. 1, 1987), «Археалогіі Беларусі» (т. 1, 1997), «Гісторыі Беларусі» (т. 1, 2000). Падрыхтаваў да публікацыі ўспаміны Ларысы Геніюш «Споведзь» (Маладосць. 1990. №№1-6).

Міхась Чарняўскі, нягледзячы на сваю загружанасць навуковай і грамадскай працай, ніколі не адмаўляў у дапамозе ці іншай просьбе. Апошні час ён дапамагаў у пошуках слядоў першабытнага чалавека краязнаўцам з Вілейшчыны. У верасні 2011 года Міхась Чарняўскі разам з добраахвотнымі памочнікамі-краязнаўцамі з Вілейкі правёў археалагічную экспедыцыю каля вёскі Цынцавічы на берагах возера Ула. У выніку навуковая грамадскасць атрымала матэрыяльнае пацвярджэнне таго, што тут была стаянка першабытных людзей.

Тым, хто ведаў Міхаіла Міхайлавіча, няхай і не вельмі блізка, заўсёды будзе не хапаць яго. Сышоў чалавек, жыццё якога было сапраўдным маральным арыенцірам для іншых.

**"Рэгіянальная газета".**

**Рэдакцыя "Рэгіянальнай газеты", чым сябрам Міхась Міхасевіч быў на працягу ўсяго існавання нашага выдання, выказвае шчыры спачуванні родным і блізкім гэтага выдатнага чалавека.**

## Міхась Чарняўскі: успамінаюць землякі

**Пра свае ўражанні ад сустрэч з Міхасём Чарняўскім, пра тое, чым запомніўся зямляк, папрасілі расказаць жыхароў Мядзельшчыны:**

**Святлана Чарняўская,** дырэктар Мядзельскага музея народнай славы:

"Пайшоў з жыцця Вялікі чалавек… Вялікі па сваіму ўнёску ў беларускую археалогію і вельмі сціплы, просты ў людскіх зносінах чалавек. Міхаіл Міхайлавіч Чарняўскі…

Я асабіста яго ведаю не так і даўно, гадоў, напэўна, з дзясятак. І заўсёды мяне ўражвала яго надзвычайная далікатнасць, інтэлігентнасць, зацікаўленасць не паказная, а сапраўдная. Не было ў яго фанабэрыстасці знакамітага вучонага, нейкага сталічнага снабізму… Гэта быў жывы, крыху смяшлівы чалавек, неймаверна улюбёны ў сваю няпростую працу, які заўсёды ў дарозе са сваім незаменным рукзачком. Прыходзячы да нас у музей, заўсёды распытваецца пра справы і музейныя, і асабістыя, сямейныя. Ніколі не адмовіў у дапамозе: ці гэта навуковая праца па археалогіі, ці ўдакладненні нейкіх гістарычных пытанняў, ці нават прынясе матэрыялы археалагічных раскопак… Калі збірала ўспаміны знакамітых землякоў пра Максіма Танка, адразу пагадзіўся напісаць пра свае чалавечыя зносіны са знакамітым паэтам. І трэба адзначыць, што склад пісьма Міхаіла Міхайлавіча вельмі сакавіты, цікавы. Чытаеш напісанае ім, як песню…

Міхаіл Міхайлавіч меўся весці наступным летам раскопкі на мядзельскім замку, што на Мястры. Вельмі перажываў за гэта, дамаўляўся з іншымі вучонымі-археолагамі, валанцёрамі аб дапамозе, прапаноўваў пакрокавую праграму, як гэта зрабіць найлепшым чынам… Аднак лёс распарадзіўся інакш… Але ж, думаецца мне, што справа, пачатая Міхаілам Міхайлавічам, будзе прадоўжаная і наш замак стане дастойным турыстычным аб'ектам, як і меркавалася адразу.

Не хочацца верыць, што больш ніколі гэты няўрымслівы чалавек-падарожнік не зойдзе ў музей, не прывітаецца сціпла са сваёй нязменнай добрай усмешкай, не пачуем яго ціхага голасу, сакавітай беларускай мовы…

Вельмі шкада, што цяжкая хвароба забрала гэтага добрага чалавека з жыцця. Аб тым, што Міхаіл Міхайлавіч быў чалавекам вельмі і вельмі сціплым, ненадакучлівым, які перш за ўсё непакоіўся пра іншых людзей, гаворыць наступны факт. Ужо знаходзячыся на бальнічным ложку і ўсведамляючы, што жыць засталося зусім нямнога, ён перажываў: "А як жа людзі будуць на могілках, цяпер жа маразы вунь якія стаяць…Памерзнуць усе…"

*А трэба проста жыць,*
*Не клікаць свята ў будзень.*
*Каб жыць і не тужыць,*
*Што паслязаўтра будзе.*
*.......*
*Нашто сачыць, сябры,*
*Які мундзір займелі,*
*Не злепіш, хоць памры,*
*Лёс па чужой мадэлі –*
*Ці ён слатой імжыць,*
*Ці мяккі ён, як вата...*
*А трэба проста жыць.*
*Жыццё ж такое свята!*

Вось так, як у гэтых радках Мар'яна Дуксы, жыў і радаваўся кожнаму дню і Міхаіл Міхайлавіч Чарняўскі, які не гнаўся за пасадамі і званнямі, а шчыра і сумленна выконваў сваю працу.

А цяпер яго не стала… Вельмі шкада і тужліва…"

**Міхаіл Трафімавіч Чарняўскі**, жыхар к. п. Нарач (Купа):

"Апошні раз бачыўся з Міхасём Чарняўскім гады два таму. Ён тады прыязджаў у Мікасецк, у бацькоўскую хату. Пасядзелі, пагаварылі.

Запомніўся мне добрым, ветлівым, свядомым, справядлівым, разумным і таленавітым чалавекам. Міхась Чарняўскі ведаў нашу гісторыю, сваю прафесію і імкнуўся гэтыя веды перадаць іншым людзям. Шмат даследаваў нашу Мядзельшчыну.

Неяк пры сустрэчы ён падарыў сваю кнігу "Вогнепаклоннікі". Зараз пайду ў бібліятэку, занясу яе туды. Хай з яго кнігай знаёмяцца людзі – каб памяталі пра добрага чалавека і выдатнага навукоўца".

**Падрыхтаваў Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Міхась Чарняўскі: правілы жыцця

Падрыхтавала "Наша ніва", скарыстаўшы інтэр'ю "Нашай Ніве", радыё "Свабода", "РГ", "Турызм і адпачынак".

● (Студэнтам) Я не вучу вас, я толькі магу натхняць.

● Мяркую, **я б мог паразумецца** з чалавекам каменнага веку.

● Бацька мне пальцам тыкаў у грудзі і казаў: «Ты запомні, ты — беларус!». Я казаў: «**Я — беларус**, беларус!».

● З матэматыкай у мяне **было слаба**, я яе не любіў. Бяздушныя формулы прыводзілі ў глыбокую дэпрэсію.

● У пятым класе рашыў я **распаўсюджваць лістоўкі**. Узяў сшытак у клетачку і друкаванымі літарамі пісаў там нешта, ледзьве не «Прэч рускіх акупантаў!».

● З дзяцінства **хацеў падарожнічаць**.

● Я ўжо, у прынцыпе, прыехаў у Мінск **свядомым чалавекам**.

● У антыкамуністычным пасляваенным руху ў Беларусі я не ведаю **больш моцнай і гераічнай асобы** за Расціслава Лапіцкага.

● Не ў кожнага лідара хапае мужнасці **ўзяць на сябе боль** людзей, што пайшлі за ім.

● Археолаг **не можа быць** калекцыянерам.

● **Я вельмі шчаслівы**, што сын стаў археолагам.

● Жонка мая любіць падмеціць, што ў Беларусі прыкладна 40 археолагаў, і з іх **тры – у нашай сям'і**.

● Наша мінулае **не ў музеях і архівах** — а ў зямлі.

● Зямлю можна **чытаць як кнігу**.

● Начальства не вечнае. Вечная толькі Беларусь.

■ ХАРЧАВАННЕ

# “Толькі не лапша хуткага прыгатавання!”

**З дзяцінства ўсіх старанна прывучалі не грэбаваць супамі ды харчавацца паўнавартасна. Асабліва хочацца чаго-небудзь гарачага ў моцныя зімовыя маразы.**

Многія ў якасці паўнавартаснай ежы выбіраюць прадукты хуткага прыгатавання, напрыклад, локшыну. Але ці варта такое сабе дазваляць?

Інтэрнэт наўрад ці дасць адназначны адказ – сведчанні пра шкоднасць чаргуюцца з вялікімі пастамі, якія сцвярджаюць: “Локшына хуткага прыгатавання – ежа як ежа”. Сустракаюцца нават паэтапныя разборы кожнага кампанента са складу прадукту, якія ў выніку адмаўляюць негатыўныя эфекты лапшы хуткага прыгатавання.

Каб атрымаць кваліфікаваны каментар, “НН” звярнулася да галоўнага пазаштатнага дыетолага Міністэрства аховы здароўя **Марыны Паповай**.

**– Лапша хуткага прыгатавання – шкодны прадукт?**

– Усе прадукты хуткага прыгатавання – не найлепшы выбар. Праз тэхналогію вырабу такія карысныя рэчы, як вітаміны ды клятчатка, не захоўваюцца ці захоўваюцца ў вельмі малой колькасці. Да таго ж, у прадукты хуткага прыгатавання дадаюць кансерванты і стабілізатары.

**– Ёсць меркаванне, што самае шкоднае ў лапшы – гэта супавая аснова, пакуначак з прыправамі, а калі іх не дадаваць, то можна есці не хвалюючыся.**

– Лапша хуткага прыгатавання звычайна вырабляецца з мукі найвышэйшага гатунку. Яна вельмі хутка гатуецца, але не ўтрымлівае амаль ніякіх карысных рэчываў. У супавую аснову дадаюць глутамат натрыю (*узмацняльнік смаку E621*). Гэтая дабаўка не забароненая, але выклікае прывыканне і вымушае чалавека пастаянна спажываць прадукты з ёю. Таксама выклікае пытанне якасць самой прыправы.

### Таннасць – міф

Локшына хуткага прыгатавання пазіцыянуецца як недарагі і даступны ўсім перакус. Яшчэ б: цэлы абед за 2 ці 3 тысячы рублёў! Але прастакутнік лапшы “цягне” максімум на гарнір не першай якасці. Але і таннасць лапшы хуткага прыгатавання – міф.

Зразумела, адзін пакунак каштуе няшмат, але і лапшы ў ім 50–100 грамаў. Кілаграм локшыны, выходзіць, каштуе ад 25 да 100 тысячаў рублёў.

### Як вынайшлі “хуткую” лапшу

Локшына – традыцыйная ежа ўсходніх народаў. Вынаходцам лапшы хуткага прыгатавання лічыцца японец Мамафуку Андо. Ён пачаў выраблять лапшу з пшанічнай мукі, якую імпартавалі ў пасляваенную Японію з ЗША. Андо таксама навучыўся апараваць лапшу і смажыць яе ў алеі – пасля такой апрацоўкі страву трэба было толькі заліць кіпенем.

Спачатку лапша Андо лічылася далікатэсам, але потым перайшла ў разрад самых танных прадуктаў. Сам Андо казаў, што ў яго рацыёне штодзень прысутнічае лапша яго ж карпарацыі, і дажыў да 96 гадоў. А японцы назвалі лапшу хуткага прыгатавання вынаходніцтвам.




**Здароўе залежыць ад якасці харчавання.**

### Хочаш жыць – еш нармальна

З часоў з’яўлення локшыны хуткага прыгатавання мала што змянілася: пшанічную ці яечную лапшу спачатку абдаюць парай, а потым смажаць у пальмавым алеі. У складзе лапшы розных вытворцаў можна знайсці араматызатары, фарбавальнікі, разрыхляльнікі, шмат тлушчу і вугляводаў.

Але запараны брыкет хуткай лапшы не можа замяніць паўнавартаснага абеду.

– Можна раз-другі падсілкавацца такой стравай падчас паходу, але лапша хуткага прыгатавання – не той прадукт, які павінен прысутнічаць у штодзённым рацыёне чалавека, – кажа Марына Папова. – Асноўная частка спажыўцоў такіх прадуктаў можа, але проста не хоча арганізоўваць сваё харчаванне. Нішто не перашкаджае ўзяць на працу тую ж сумесь замарожанай гароднiны і пагрэць у мікрахвалевай печы ці звечара сабраць сабе абед з хатняй ежы, бо яна звычайна лепшая за любы паўфабрыкат, нават высокай якасці. Усё залежыць ад жадання чалавека. Калі чалавек ставіць мэту быць здаровым і жыць доўга, ён ведае, што дыета – важны элемент добрага здароўя, і клапоціцца аб ім. Астатняе – адгаворкі.

**Паводле Кірыла ХІЛЬКО, “Наша ніва”.**

| Курсы валют НБ РБ | 17.01 руб. | 24.01 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 8 650.00 | **8 640.00** |
| Еўра | 11 490.00 | **11 490.00** |
| Злоты | 2 776.04 | **2 763.30** |
| Літ | 3 324.30 | **3 329.86** |
| Расійскі рубель | 285.00 | **286.00** |
| Грыўня | 1 062.39 | **1 063.38** |
| **Курсы ў “Банку БелВЭБ” у Маладзечне** | | |
| Долар ЗША | 8660/8740 | **8640/8730** |
| Еўра | 11400 /11620 | **11400/11580** |

**Цэны на рынку** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 16.01 | 23.01 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| **Кілбаса с/вэндж.**, 1 кг | 105700 | – |
| **Сасіскі**, 1 кг | 44650 | – |
| **Свініна, лапатка**, 1кг | 50000 | – |
| **Ялавічына, кумпяк**, 1 кг | 88000 | – |
| **Кураня-бройлер**, 1 кг | 25900 | – |
| **Мінтай свежамарожаны**, 1 кг | 22700 | – |
| **Селядзец**, 1 кг | 32900 | – |
| **Скумбрыя х/в**, 1 кг | 85000 | – |
| **Рыс**, 0,9 кг | 9000 | **5500** (0,7 кг) |
| **Грэчка**, 0,9 кг | 8000 | **4200** (0,7 кг) |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 9000 | – |
| **Алей** | 15500 | **17500** |
| **Маянэз**, 200 г | 4600 | – |
| **Соус “Мінскі”**, 0,5 л | 7200 | – |
| **Кава “Nescafe”**, 100 г | 30000 | – |
| **Шпроты**, бляшанка 160 г | 9500 | – |
| **Цыбуля рэпчатая**, 1 кг | 3500 | **3700** |
| **Капуста**, 1 кг | 3800 | **3500** |
| **Морква**, 1 кг | 3800 | **4000** |
| **Буракі**, 1 кг | 3800 | **3500** |
| **Лімоны**, 1 кг | 18500 | **18000** |
| **Апельсіны**, 1 кг | 16500 | **15000** |
| **Мандарыны**, 1 кг | 15500 | **16000** |
| **Памідоры**, 1 кг | 25000 | **26000** |
| **Агуркі**, 1 кг | 34500 | **29000** |
| **Перац**, 1 кг | 33000 | **30000** |
| **Вінаград**, 1 кг | 22500 | **22000** |
| **Бананы**, 1 кг | 13500 | **12700** |
| **Яблыкі**, 1 кг | 8500 | **8500** |
| **Грушы**, 1 кг | 18000 | **18000** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| **Малако**, 1,5 л | 12000 | |
| **Масла**, 1 кг | 70000 | |
| **Тварог**, 1 кг | 36000 | |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 18000 | |
| **Сала**, 1 кг | 55000 | |
| **Бульба**, 1 кг | 2500 | |
| **Мёд**, 1 кг | 60000 | **60000** |

**У гэтым спісе толькі тыя прадукты, якія можна было набыць на маладзечанскім рынку ў сераду, каля 13.00. Падрабязней пра працу рынкаў у маразы чытайце на 20 старонцы.**

## Асноўныя прынцыпы здаровага харчавання




**Ідэальная схема для складання правільнага рацыёна.**

**Парады чытачам “РГ” дае вілейскі доктар-дыетолаг Ліяна Андросік.**

1. Харчавацца трэба разнастайна, не захапляючыся канкрэтнымі прадуктамі. Ідэальнае спалучэнне харчовых элементаў (бялкі, тлушчы і вугляводы) такое – 1 : 1,2 : 4,6. Значыць, калі ў складзе стравы 100 грамаў бялку, то тлушчу павінна быць 120 грамаў, а вугляводаў – 460 грамаў. Дастаткова ведаць гэтую прапорцыю, каб на вока вызначыць, колькі чаго пакласці ў талерку.
2. Прыслухоўвацца да свайго арганізма, бо харчаванне – справа вельмі індывідуальная. Калі пасля ўжывання пэўнага прадукту вы адчуваеце сябе горш, чым звычайна, значыць, прадукт проста “не ваш”. Нават калі яго карысць даказаная навуковымі даследаваннямі.
3. Да фарбавальнікаў і араматызатараў варта ставіцца з асцярогай. Лепш не набываць прадукты, у складзе якіх больш за тры складнікі з пазнакай Е.
4. Абмяжоўваць ужыванне ў ежу вэнджаных, марынаваных, салёных прадуктаў.
5. Пры магчымасці замяняць смажаную ежу варанай ці прыгатаванай на пары.
6. Калі на дэсерт у вас – садавіна, яе лепш ужываць не адразу пасля асноўнай стравы, а праз гадзінку. Менавіта праз гэты час актывізуюцца пэўныя ферменты нашага арганізма, што адказваюць за пераграўленне такой ежы.
7. Пажылым людзям лепей есці невялікімі порцыямі, але часта. Так арганізму будзе прасцей справіцца з нагрузкай.
8. Пазбягаць памылак, тыповых для ўсіх беларусаў. Гэта значыць, трэба штодзённа абавязкова дапаўняць свой рацыён садавіной і агароднінай. І яшчэ – не захапляцца тлустай ежай зімой. Нават калі за лета вы выгадавалі парсючка, гэта не значыць, што зімой мяса трэба есці на сняданак, абед і вячэру.

**Аляксандра ПАРАХНЯ.**

ПРАКУРАТУРА, СУД

# 15-гадовы хлопец украў каня



Фота a69.g.akamai.net

15-гадовы хлопец у адзін дзень і ўкраў каня, і прадаў яго.

**МАЛАДЗЕЧНА. Вынесены прыгавор 15-гадоваму хлопцу, які за адзін дзень паспеў украсці і прадаць каня з возам.**

Вось што ён распавёў. "Я нарадзіўся і жыву ў Мінску. У ліпені мяне накіравалі ў сацыяльна-педагагічны цэнтр Фрунзенскага раёна. Недзе ў сярэдзіне месяца збег, бо мне там надакучыла. Паехаў на электрычцы з Мінска ў Маладзечна, але на станцыі Уша мяне высадзілі, бо не было білета.

Я вырашыў пайсці ў бок вёскі Відзеўшчына. На полі пазнаёміўся з мужчынамі, Віцем і Алегам, якія пасвілі кароў. Стаў жыць у аднаго з іх. Мне даручылі каня з возам, каб я ім вазіў на поле абеды, якія гатавала жонка Віці. Так і жыў каля тыдня.

24 ліпеня каля апоўдня я зноў быў на полі, дзе Алег пасвіў кароў. Паехаў за абедамі, але мне сказалі, што прыехаў зарана. Я вырашыў, што больш ужо не вярнуся і паехаў на станцыю, каб патрапіць у Мінск.

Пакуль я ехаў, зблудзіў і пазнаёміўся з дзяўчынай. Імя яе не памятаю. Папрасіў, каб яна пацвердзіла, што я яе брат і што мне 21 год, бо хацеў знайсці пакупніка і прадаць каня. І гэтым кампенсаваць сабе шкоду за тое, што ў іх працаваў. Калі мы ехалі з гэтай дзяўчынай, сустрэў хлопца, якому і прапанаваў купіць каня з возам за 400 долараў (каля 3,5 мільёна рублёў).

Я сказаў яму, што гэта конь майго дзядзькі і што нам трэба далёка ехаць, а каня няма куды дзець. І хлопец пагадзіўся.

Пасля гэтага я напісаў яму распіску, але прозвішча напісаў не сваё. Ён забраў каня, каб агледзець. Праз 30 хвілін ён вярнуўся і сказаў, што конь зусім хворы і што ён дасць мне толькі 200 долараў, і я пагадзіўся. Пасля гэтага дзяўчына, якая была з намі, па просьбе хлопца, што купіў каня, сфатаграфавала мяне з ім на яго мабільны тэлефон. Пасля мы разышліся. Я пайшоў на станцыю і паехаў у Мінск".

Гэтыя абставіны знайшлі пацвярджэнне ў матэрыялах крымінальнай справы.

Аказалася, што і конь, і павозка належалі прадпрыемству "Забудова-Агра". І разам усё ацэнена на суму амаль 3,5 мільёна рублёў.

Суд прызначыў хлопцу тры месяцы арышту. Але яго адпусцілі ў зале суда, улічыўшы час, які ён знаходзіўся пад вартай, калі ішла справа.

**Сяргей ГАБРУКОВІЧ, старшы памочнік пракурора Маладзечанскага раёна.**

## Налавілі рыбы на больш чым 23 мільёны рублёў

**ВІЛЕЙКА. Бацька кіраваў лодкай, сын лавіў рыбу электравудай, а трэці ўдзельнік супрацьзаконнай рыбалкі чакаў каля машыны ды назіраў за тым, каб нікога паблізу не было.**

Усё адбылося 1 верасня 2012 года недалёка ад вёскі Казлы. Каля дзевяці гадзін вечара нецвярозы 48-гадовы бацька з 27-гадовым сынам ужо плылі на гумовай лодцы па рацэ Ілья. З сабой яны ўзялі самаробную электравуду, якую бацька купіў яшчэ дзесяць гадоў таму.

Іх 51-гадовы знаёмы на машыне ўжо ад'ехаў ўніз па плыні і чакаў.

За гадзіну сын злавіў 114 акунькоў, 17 шчупакоў і сем ляшчоў. Гэтая рыба разам каштуе 23 мільёны 400 тысяч рублёў.

Задаволеныя такім уловам, яны паплылі да месца, дзе іх чакала машына. Там пагрузілі ўсю рыбу ў багажнік. Але давезці яе не ўдалося – па дарозе дамоў парушальнікаў затрымала міліцыя.

У машыне знайшлі рыбу, электравуду з акумулятарам, гумовую лодку і гумовы камбінезон.

Абвінавачаныя прызналі сваю віну цалкам. Шкоду кампенсавалі.

Суд прызначыў кожнаму штраф. Бацьку – 10 мільёнаў рублёў, сыну і кіроўцу машыны – па 9,5 мільёна рублёў.

Лодку з помпай, гумовы камбінезон, электравуду з акумулятарам і рыбу канфіскавалі.

**Віктар ГАТОЎКА, памочнік пракурора Вілейскага раёна.**

ПАЖАРЫ

## Бацька загінуў, а дачка паспела выратавацца

**ВІЛЕЙКА. Ноччу 18 студзеня ў вёсцы Куранец здарыўся пажар. Загінуў 66-гадовы гаспадар дома.**

Агнём пашкоджаная большая частка дома. Выгараў дах і веранда.

На месца здарэння выехаў і Следчы камітэт Вілейскага раёна. Ім было ўстаноўлена, што перад пажарам загінулы распіваў спіртныя напоі разам са сваёй дачкой. Абое курылі.

Калі пачаўся пажар, прыняліся тушыць яго самастойна, але гэтага было недастаткова.

Дачка паспела выбегчы з хаты, а вось гаспадар загінуў у агні.

Папярэдняя прычына ўзнікнення пажару – узгаранне пасцельных прыналежнасцяў пры курэнні ў ложку, прычым у стане алкагольнага ап'янення.

Як паказвае практыка, гэтая прычына з'яўляецца тыповай для большасці пажараў.

Сёлета на тэрыторыі Вілейскага раёна здарыліся чатыры пажары, у адным з іх загінуў чалавек. Летась былі 52 пажары і 11 чалавек загінулі. Пазалетась – 68 пажараў, у якіх загінулі 18 чалавек.

**Вадзім ШУКРЫНАЎ, намеснік пракурора Вілейскага раёна.**

КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ

## Сын ударыў бацьку нажом

**МАЛАДЗЕЧНА. Ноччу з 16 на 17 студзеня мужчыну даставілі ў рэанімацыю.**

Без 20 хвілін да апоўначы 16 студзеня ў прыёмны пакой Маладзечанскай цэнтральнай раённай бальніцы даставілі 55-гадовага мужчыну, жыхара аграгарадка Алёхнавічы.

У яго была колата-рэзаная рана груднной клеткі і брушной поласці, паведаміў начальнік штаба Маладзечанскага райаддзела міліцыі **Яўген Беркутаў**.

Следча-аператыўная група прыбыла як ў бальніцу, так і на месца здарэння. Супрацоўнікі міліцыі ўстанавілі, што ўдар мужчыну нанёс яго 30-гадовы п'яны сын.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

## Затрымалі віноўніка аварыі

**МАЛАДЗЕЧНА. У серады, 16 студзеня, узбуджаная крымінальная справа ў адносінах да 23-гадовага жыхара Алёхнавічаў.**

Яго затрымалі, калі той кіраваў аўтамабілем, не маючы на гэта права.

7 снежня 2011 года маладзёна асудзілі за парушэнне правілаў дарожнага руху, якое пацягнула смерць ці цяжкія цялесныя пашкоджанні. Пра гэта распавёў начальнік штаба Маладзечанскага райаддзела міліцыі **Яўген Беркутаў**.

Малады чалавек атрымаў тады пакаранне ў выглядзе абмежавання свабоды і пазбаўлення права кіраваць машынай чатыры гады.

Невыкананне прыгавору суда аб пазбаўленні права займацца пэўнай дзейнасцю караецца штрафам ці арыштам да шасці месяцаў.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

## Асудзілі двух браканьераў

**МЯДЗЕЛ. Супрацоўнікі міжраённай інспекцыі і ўпраўлення аператыўнага рэагавання Дзяржаўнай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету летась 21 верасня на возеры Нарач затрымалі двух парушальнікаў.**

Яны з выкарыстаннем сямі рыбалоўных сетак незаконна налавілі 207 краснапёрак, 166 гусцяроў, 12 акунёў, 5 шчупакоў і 2 сігі. Агульная вага рыбы – амаль 67 кілаграмаў. Каштуе яна 14 мільёнаў 610 тысяч рублёў.

На парушальнікаў узбудзілі крымінальную справу.

Акрамя кампенсацыі шкоды, якую яны пакрылі да суда, кожнаму прысудзілі па два гады пазбаўлення волі.

Касацыйная скарга аднаго з абвінавачаных Мінскім абласным судом пакінутая без задавальнення, і ў канцы снежня прысуд уступіў у сілу.

**Уладзімір ХІЛА, дзяржінспектар Мядзельскай міжрайінспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.**

## У Чарэмшыцах ад нажавых раненняў загінуў мужчына

**МЯДЗЕЛ. 15 студзеня ў вёсцы Чарэмшыцы Занарацкага сельсавета ў сваім доме з нажавымі раненнямі груднной клеткі, брушной поласці і спіны знойдзены труп 66-гадовага пенсіянера.**

Мяркуецца, што злачынства было здзейснена ўвечары 13 студзеня.

Але ахвяру знайшлі толькі праз два дні: мужчына жыў адзін.

Па падазрэнні ў здзяйсненні гэтага злачынства затрыманы 32-гадовы аднавяскоўец. Папярэдне ўстаноўлена, што ўдары нажом наносіліся падчас сваркі пасля сумеснага распівання спіртных напояў.

**Аддзел інфармацыі.**

МЯЖА

## На мяжы канфіскавалі паліва

**АСТРАВЕЦ. У суботу, 19 студзеня, на прапускным пункце "Гудагай-1" мытнікамі ў лакаматыве знойдзена 300 літраў дызельнага паліва.**

Яно было схаванае ў кабіне машыніста пад падлогай.

Паліва канфіскаванае супрацоўнікамі Астравецкага раённага аддзела ўнутраных спраў. Папярэдняя сума ацэнкі складае 2 мільёны 400 тысяч рублёў.

**Аляксандр КОЛАБАЎ, памочнік начальніка Смаргонскай пагранічнай групы па працы са сродкамі масавай інфармацыі.**

■ У КАМІТЭЦЕ ДЗЯРЖКАНТРОЛЮ

# Замест дзвярэй уваходных – унутраныя

## Парушэнні "УКБ-Мядзел" пры будаўніцтве

**МЯДЗЕЛ. Крэдытную запазычанасць забудоўшчыкам паменшылі на 508 мільёнаў пасля праверкі інвестыцыйнага будаўнічага камунальнага ўнітарнага прадпрыемства "Упраўленне капітальнага будаўніцтва-Мядзел", дзе выявілі шэраг парушэнняў.**




Без акта ўводу ў эксплуатацыю з лютага да снежня 2012 года выкарыстоўваўся фізкультурна-аздараўленчы комплекс.

Падчас будаўніцтва жылых дамоў прадпрыемства праігнаравала патрабаванне прэзідэнта вытрымліваць нарматыўныя тэрміны будаўніцтва, а таксама садзейнічаць змяншэнню коштаў на жыллё.

### Будавалі ў два разы даўжэй

На некаторых аб'ектах работы вяліся ў два разы даўжэй, чым патрабавалі нормы. Пры гэтым змяненне тэрміну з мясцовай выканаўчай уладай было ўзгоднена толькі на адзін з шасці дамоў, якія будавалі.

Неапраўдана зацягваліся тэрміны (па два-тры гады) прыёмкі ў эксплуатацыю закончаных аб'ектаў, якія будавалі з выкарыстаннем бюджэтных сродкаў. Аднак пры гэтым усе названыя аб'екты эксплуатаваліся, што таксама парушае заканадаўства.

Без акта ўводу з лютага да снежня 2012 года выкарыстоўваўся фізкультурна-аздараўленчы комплекс у Мядзеле.

### Неэфектыўна выкарыстоўвалі мільёны рублёў

Беспадстаўна шэраг уведзеных у эксплуатацыю аб'ектаў на працягу доўгага часу не перадавалі на баланс эксплуатуючых арганізацый, з-за чаго бюджэт не атрымаў 14,2 мільёна рублёў плацяжоў.

Надзвычай неэфектыўна выкарыстоўвалі 168,5 мільёна рублёў бюджэтных сродкаў на распрацоўку яшчэ ў 2009-2010 гадах і незапатрабаванай праектнай дакументацыі. Пры гэтым будаўніцтва большасці спраектаваных аб'ектаў магчымае толькі пасля перапрацоўкі праектна-каштарыснай дакументацыі і станоўчага заключэння экспертызы. Для гэтага патрабуюцца дадатковыя выдаткі.

### Не кантралявалі будаўніцтва

Прадпрыемства "УКБ-Мядзел", выконваючы функцыі заказчыка і тэхнічнага наглядчыка за будаўніцтвам жылля, фактычна ўхілялася ад звязаных з гэтым функцый.

Падчас праверкі двух з шасці аб'ектаў жылля, у адносінах да якіх прадпрыемства ў 2011-2012 гадах выконвала тыя ж функцыі, выявілі грубыя парушэнні заканадаўства аб архітэктурнай і горадабудаўнічай дзейнасці, неэфектыўнае і незаконнае выкарыстоўванне крэдытных рэсурсаў банкаў. Гэта ў некаторых выпадках істотна адбілася на коншце будаўніцтва.

На стадыі праектавання 165-кватэрнага жылога дома ў курортным пасёлку Нарач "УКБ-Мядзел" ухілялася ад забеспячэння аб'екта праектнай дакументацыяй. У выніку жыллёва-будаўнічы спажывецкі кааператыў, не валодаючы інфармацыяй аб рынку паслуг па праектаванні, самастойна прызначыў праекціроўшчыка, кіруючыся толькі нізкім коштам праекта.

У выніку праект распрацавалі не тыпавы, а індывідуальны, праектную дакументацыю распрацавалі і перадалі падрадчыку несвоечасова і не ў поўным аб'ёме. Гэта потым адбілася на коште, якасці і тэрмінах выканання будаўнічых работ.

На працягу ўсяго перыяду будаўніцтва "УКБ-Мядзел" не забяспечыла належны кантроль за вядзеннем будаўніцтва, своечасова не вырашала пытанні ўзгаднення з праектнай арганізацыяй няўлічаных у дакументацыі работ, аб неабходнасці правядзення дадатковых работ, замене матэрыялаў.

З-за адсутнасці кантролю і парушэння заканадаўства будаўнічая фірма "Барыт" без узгаднення з праекціроўшчыкам выконвала дадатковыя працы, якія вызначала самастойна, выкарыстоўвала не прадугледжаныя праектам матэрыялы.

Карэкціроўка праектнай дакументацыі з улікам унесеных змяненняў і дапаўненняў патрабавала правядзення дадатковай дзяржаўнай экспертызы і зацвярджэння архітэктурнага праекта.

Адсутнасць кантролю з боку прадстаўніка тэхнічнага нагляду прывяло да таго, што будаўнічая фірма ў жылым доме замест уваходных дзвярэй усталявала дзверы ўнутраныя.

Субпадрадчыкі беспадстаўна ўключалі ў акты выкананых работ кошт матэрыялаў, хаця работы выконвалі і выкарыстоўвалі матэрыялы іншыя суб'екты гаспадарання.

Патуранне прадпрыемства "УКБ-Мядзел" на стадыі падпісання дагавора дало магчымасць будаўнічай фірме самастойна прымаць рашэнні аб закупках будаўнічых матэрыялаў, якія набывалі не ў вытворцаў, а ў пасрэднікаў.

Набыццё будматэрыялаў (пліты перакрыцця, дзвярныя і аконныя блокі і г.д.) напрамую ў вытворцаў абышлося б танней на 200 мільёнаў рублёў.

Пры гэтым сутнасць гаспадарчых аперацый па адгрузцы матэрыялаў ад пасрэдніка да будаўнічай фірмы заключалася толькі ў выпісцы таварных накладных.

### Адказнасць за парушэнні

Падчас праверкі "УКБ-Мядзел" выявілі і іншыя парушэнні: тэхнічных нарматыўных праваых актаў, будаўнічых нормаў, парушэнне правядзення працэдуры перагавораў, правілаў утрымання будаўнічай пляцоўкі, невыкананне прадпісанняў органаў дзяржнагляду па ліквідацыі парушэнняў, парадку вядзення бухгалтарскага ўліку.

За допушчаныя правапарушэнні да адміністрацыйнай адказнасці прыцягнутыя восем службовых асоб, яны аштрафаваныя на 3,4 мільёна рублёў. Інвестыцыйнае будаўнічае камунальнае ўнітарнае прадпрыемства "Упраўленне капітальнага будаўніцтва-Мядзел" аштрафавалае на 28 мільёнаў рублёў. Да дысцыплінарнай адказнасці прыцягнутыя чатыры чалавекі.

Крэдытная запазычанасць забудоўшчыкам паменшаная за выкананыя на жылых дамах будаўнічыя работы на 508 мільёнаў рублёў. Пастаўлена на ўлік аб'ектаў асноўных сродкаў на суму 382 мільёны рублёў.

**Паводле матэрыялаў праверкі Маладзечанскага міжраённага камітэта дзяржкантролю.**



■ ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МЯДЗЕЛЕ

# Ці шмат дамоў трэба пабудаваць у Мядзеле?



**Юрый Протас, інкасатар:**

– На перспектыву – трэба будаваць шмат. Каб горад развіваўся, каб было каму ў той жа фізкультурна-аздараўленчы комплекс хадзіць. І лепей узводзіць дамы ў пяць павярхаў, а не ў тры, бо так танней для людзей будзе.



**Браніслава Сідаровіч, пенсіянерка:**

– Шмат дамоў не трэба. Так, неабходна будаваць, але не моцна захапляцца гэтым. Бо ў Мядзеле прамысловасці асаблівай няма. І работа ж, у асноўным, "на курорце".



**Рыгор Гушча, сувязіст:**

– Трэба будаваць больш. І каб гэта не буў адзін дом на водшыбе, а будаваць цэлым мікрараёнам, як гэта зроблена па вуліцы Заазёрнай. Яшчэ, каб месца пад будаўніцтва падбіралі добрае, не на балоце.



**Алена Нарэйка, бібліятэкарка:**

– Шмат. Трэба, каб гарадок развіваўся, каб моладзь тут заставалася. Бо Мядзел – для жыцця месца добрае і спакойнае: можна дзіця адно ў школу адправіць, на гурток. Я сама жыву ў доме, які здаўся ў жыллёва-будаўнічым кааператыве ў 2011 годзе.



**Наталля Бурак, музейны работнік:**

– Трэба будаваць, асабліва для маладых сем'яў. Каб у іх быў свой куток, а не даводзілася наймаць кватэру. Лепш укласці грошы ў крэдыт, чым плаціць за наёмнае жыллё.



**Галіна Шукела, пенсіянерка:**

– Паглядзіце, колькі шмат аб'яў аб продажы кватэр у старых дамах! На мой розум, многа дамоў не варта будаваць – толькі для тых маладых сем'яў, якім сапраўды патрабуецца жыллё.



**Дзяніс Малько, супрацоўнік райаддзела па надзвычайных сітуацыях:**

– Шмат. Я сам малады спецыяліст, нядаўна стварыў сям'ю. Хацелася б мець сваё жыллё. І калі б было жыллё для маладых спецыялістаў – больш бы ўраджэнцаў Мядзела вярталася б сюды.

**Падрыхтаваў Алесь ВЫСОЦКІ.**

ДА 150-ГОДДЗЯ ПАЎСТАННЯ ПАД КІРАЎНІЦТВАМ КАСТУСЯ КАЛІНОЎСКАГА

# Тых, хто разбурыў помнік паўстанцам, расстралялі немцы




Стэла ў вёсцы Куранец у гонар паўстанцаў.

**ВІЛЕЙКА. Сябры Таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры плануюць прысвяціць большую частку сваёй працы 150-годдзю паўстання 1863 года пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага.**

У планах вілейчукоў сёлета – выданне альманаху, помнік, усталяванне інфармацыйных стэндаў і суботнікі.

## Альманах Вілейшчыны

Летам выйдзе альманах па гісторыі Вілейшчыны накладам 50 асобнікаў, у якім знойдуць месца ўспаміны ўдзельніка паўстання 1863 года (урывак гэтых успамінаў – на 19-й старонцы). Яго ўкладае сябра таварыства аховы помнікаў **Зміцер Хаценчык**, інфармацыйна забяспечвае старшыня таварыства **Дзяніс Канецкі**.

– У перакладзе ўспамінаў пра паўстанне ўпершыню падрабязна апісаны радавод Козелаў-Паклеўскіх, названыя ўсе Козелы, якія ўдзельнічалі ў паўстанні, – распавядае Дзяніс Канецкі. – Бітва каля Уладыкаў апісваецца і вачыма паўстанцаў, і расійскага боку. Розніца істотная. Напрыклад, расейцы прыпісвалі колькасць паўстанцаў. Калі іх было 20 – пісалі, што сто, каб паказаць, як яны лёгка расправіліся з імі.

Краязнаўца **Аляксандр Зайцаў** для альманаху падрыхтаваў артыкул пра вёску Камена. Там знаходзіцца камень, які даў назву вёсцы. На ім выбіта выява крыжа Еўфрасінні. **Віталь Курдэка** распавёў пра свайго далёкага сваяка, мастака **Нікадзіма Сіліvановіча**.

У альманаху будзе таксама артыкул пра вілейскі касцёл, якому сёлета споўніцца 100 год, а таксама ўспаміны **Максіма Танка** пра сваю цётку, якая жыла ў Касцяневічах і Сэрвачы. Чытачам прапануюць таксама агляд выдадзеных кніг, звязаных з Вілейшчынай.

У канцы альманаху размесцяць маршрут падарожжа да ўсіх існуючых калі-небудзь на Вілейшчыне помнікаў, прысвечаных паўстанцам, а таксама карту, на якой пазначаць гэтыя месцы. Некаторых з іх цяпер ужо няма. Напрыклад, капліцу ў Ілы разбурылі ў 50-я гады.

– Педэстал са стэлай у Куранцы зруйнавалі ў 1939 годзе, калі на Вілейшчыну прыйшлі саветы, – гаворыць старшыня Таварыства аховы помнікаў. – А калі тэрыторыю занялі немцы ў 1941 годзе, яны знайшлі злачынцаў, якія гэта ўчынілі, і расстралялі абодвух: аднаго з Куранца, а другога – з Любані, кавалягра.

У дзённіку Максіма Танка прыгадваецца, што ў Сэрвачы стаіць крыж, прысвечаны паўстанцам.

– У 1986 годзе ў Сэрвачы праводзіў раскопкі археолаг **Міхась Чарняўскі**, пасля якіх пацвердзіў, што крыж у Сэрвачы сапраўды стаяў, – запэўнівае Дзяніс Канецкі.

## Вянок памяці паўстанцам

Ва Уладыках рыхтуюцца да таго, каб замяніць надмагільную пліту – заліць цэментам, а зверху зрабіць вянок з чырвонага і чорнага граніту. А ў цэнтры гэтага вянка будзе выступаць надпіс "1863".

Гэты аб'ект спраектаваў **Анатоль Капцюг**.

## З'явяцца стэнды

Шэсць інфармацыйных стэндаў з'явяцца сёлета на Вілейшчыне: ва Уладыках каля пахавання Козелаў-Паклеўскіх, у Сэрвачы каля капліцы і каля крыжа, дзе раней стаяў касцёл, у Гануце каля абедзвюх капліц і ў Касцюковічах каля фальваркa Тукайлаў.

На стэндах будзе тлумачэнне, што сабой уяўляе пэўнае памятнае месца.

Зоя ХРУЦКАЯ.

ПАМЯЦЬ

# 150-годдзе паўстання не святкуюць

**ВІЛЕЙКА. 22 студзеня споўнілася 150 год з дня пачатку усебеларускага паўстання супраць царскага нашэсця і прыгнёту пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага.**

Вызваленчыя падзеі адбываліся і на хаценчыцкай тэрыторыі. На вялікі жаль, як для саміх паўстанцаў, так і для ўсіх беларусаў усё скончылася вельмі трагічна.

Хачу нагадаць чытачам, дзе і як разгортваліся ваенныя падзеі, як змагаліся нашы продкі-земляки за волю і незалежнасць, як загінулі і дзе пахаваныя.

Магіла паўстанцаў 1863 года знаходзіцца ў лесе, у паўкіламетры на поўдзень ад вёскі Уладыкі. Там пахавана больш за 100 паўстанцаў атрада Вінцэнта Козела, якія загінулі ў баі з царскімі войскамі 16(28).05.1863 года. Як сведчаць гістарычныя факты, у атрадзе, які сфарміраваў Вінцэнт Козел (Козел-Паклеўскі) у Вілейскім павеце, было больш за 200 чалавек.

У маі 1863 года ён знаходзіўся ў Стайкаабадоўскай пушчы, недалёка ад вёскі Уладыкі. Супраць атрада кінулі пяць рот царскіх войск. Паўстанцы ноччу 15(27) мая пераправіліся на левы бераг Іліі і размясціліся ў лесе каля Уладыкаў.

Царскія войскі зайшлі ў тыл атрада. Паўстанцы ўпарта супраціўляліся, але былі акружаны і прыціснуты да ракі. Каля трох гадзін працягваўся жорсткі бой. Слаба ўзброеныя паўстанцы біліся да апошняга. У баі загінула 120 паўстанцаў, у тым ліку Вінцэнт Козел, 50 чалавек патанулі ў рацэ, 25 трапілі ў палон.

У 1933 годзе на магіле паўстанцаў ўсталявалі пліту. А на пачатку 90-х гадоў мінулага стагоддзя скаўты з Маладзечна і вучні Сцешыцкай школы ўсталявалі крыж па загінулых паўстанцах. У мінулым годзе 7 лістапада сябры вілейскай суполкі Таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры замест старога ўжо спарахнелага крыжа ўсталявалі новы. Пасля ўсталявання крыж асвяціў пробашч альковіцкага касцёла **ксёндз Анатоль**.

Адбылося набажэнства ў гонар загінулых паўстанцаў.

Акцыя праходзіла з нагоды падрыхтоўкі да святкавання 150-годдзя паўстання 1863 года.

І гэты дзень сёння настаў. Ён выдаўся хоць і марозны, але вельмі ціхі і сонечны. Усё спрыяла для правядзення святкавання 150-годдзя ўсебеларускага паўстання. Я і мой даўні сябра даехалі да Уладыкаў ужо абедзенным часам і без ніякіх дарожных прыгод. Дарога да глухой вёсачкі была расчышчаная не горш за цэнтральную (ільянскія дарожнікі паклапаціліся).

Машыну спынілі насупраць брацкай магілы змагарам-паўстанцам, якая знаходзіцца з правага боку ад дарогі ў лесе. Пра святкаванне тут нічога не нагадвала. Шлях да магілы пралягаў праз кусты, быў засыпаны некранутым снегам у калена. Прадбачаўшы такое, мы прыхапілі з сабой вялікія валёнкі, у якіх і здолелі дабрацца да пахавання.

Акрамя паўстанцаў тут жа побач пахаваны каля двух дзесяткаў мірных жыхароў, загінуўшых ад рук фашыстаў у Вялікую Айчынную вайну. Аддаўшы даніну памяці загінулым, мы рушылі назад да дарогі, на якой нас ужо надчэквалі двое мясцовых жыхароў.

Пагутарыўшы з імі, нам стала вядома, што, акрамя нас і ксяндза, які сёння наведваўся сюды крыху раней за нас, больш ніхто не прыязджаў. Вось і "пасвяткавалі"! Зберагчы гісторыю толькі намаганнямі грамадскіх суполак, скаўтаў, шкаляроў ды святароў немагчыма без дзяржаўнай падтрымкі і, у першую чаргу, без падтрымкі народных абраннікаў.

Дзе вы, адгукніцеся?! Няўжо так цяжка зразумець, што краіна, у якой не шануюць мінулае, не можа разлічваць на цудоўную будучыню! Яна асуджаная толькі на самазнішчэнне, і першы крок да гэтага ўжо зроблены!

Алесь РАТКЕВІЧ.




На магіле паўстанцаў 22 студзеня, у дзень пачатку паўстання, адзінкі ўшанавалі памяць герояў.

## ВІНШАВАНКА

**Віншую ўсіх выпускнікоў 1983 года з 30-гадовым юбілеем!**



*Может считает нас кто-то*
*и взрослыми,*
*Но под морщинками детства –*
*душа.*
*Дни наши школьные, яркими*
*звёздами,*
*В маленький класс возвратиться*
*спешат.*

*Там, где доска, а на ней –*
*"С Юбилеем!"*
*Дежурный старательно вывел*
*рукой.*
*Где за окном, по холодным аллеям,*
*В школу спешат в день*
*особый такой.*

*Кто поседел, кто немножко*
*поправился...*
*Я по улыбкам вновь всех узнаю.*
*Нет только классной...*
*покой пусть достанется*
*За доброту ей в пресветлом раю.*

*Рекой потекут не спеша разговоры,*
*Работа, проблемы –*
*здесь каждый поймёт,*
*Что школьные годы проходят*
*так скоро*
*И вот уже зрелость всех ждёт*
*у ворот.*

*Наш юбилей в этот вечер*
*закончится,*
*Снова мы на год все станем*
*мудрей.*
*А расставаться ведь, правда,*
*не хочется?*
*В вечер февральский*
*и школьных друзей.*

**Сяргей Брандт (СШ №5).**

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• ВАЗ 21093, 1997 г.в., 1,5 см3, 5МКПП. Т. (8-029) 6281166.

• Опель Амега Б, 2,5 бензін, 1996 г.в., шэры металік, седан, 4000 у.а., торг. Т. Вэлком (8-044) 7691832.

• Опель Астра, 1994 г.в., 1,7 ТД, сіне зялёны металік, хэтчбэк, 2750 у.а., Маладзечна. Т. (8-029) 5062370.*

• Опель Астра, 2007 г.в., 1,7 ТД, 164 т.км, 110 л.с, цёмна-сіні, універсал, 6-МКПП, NAVI, круіз-кантроль, падагрэў сядзенняў, добры стан, з Германіі. Т. (8-029) 8625610, (8-029) 3550763.



| Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёну: | |
|---|---|
| Астравец | - 01591. |
| Ашмяны | - 01593. |
| Валожын | - 01772. |
| Вілейка | - 01771. |
| Маладзечна | - 0176. |
| Мядзел | - 01797. |
| Смаргонь | - 01592. |

• Опель Вектра Б, 1997 г.в., 1,7 ТД. Т. МТС (8-029) 5989996.

• Пасат В 2, 1987 г.в., 1,6 ТД, універсал ці абмяняю на 2 пярэднія масты МТЗ 82, 1400 у.а. Т. (8-029) 6434876.*

• Пежо 807, 2004 г.в., выдатны стан; дыскі БМВЕ39, 4 шт, 60 у.а. Т. (8-033) 6665868.*

• Рэно Велсацыс, 2002 г.в., 2,2 Д, усе опцыі, 7550 у.а ці абмен. Т. (8-029) 9820207.

• Рэно Меган, 2001 г.в., 1,6 бензін, 5-дзвярэй, літыя дыскі, хэтчбэк, шэра-зялёны, 6600 у.а. Т. (8-029) 5078439.*

• Рэно Сцэнік, 1999 г.в., 1,9 ДТІ на запчасткі, дыскі літыя R 15. Т. Вэлком (8-044) 6653394.*

• Сітраэн Берлінга, 2001 г.в. на запчасткі. Т. МТС (8-033) 6653394.*

• Таёта Карола Верса, 2003 г.в., мінівэн, рухавік Д 4Д, аб'ём 2,0, выдатны стан, цана дагаворная. Т. Вэлком (8-029) 3160331.

• Форд Транзіт, 1998 г.в., 2,5 ТДІ, белы, 6 месц, капітальны рамонт рухавіка. Т. (8-029) 6278076.*

• ФВ Пасат, 1986 г.в., 1,8 Б, універсал, 850 у.а., дыскі R 14. Т. МТС (8-029) 7763394.*

• Фіят Уліс, 2003 г.в., 2,2 HDI, сіні, 6 месцаў, вебаста, эл/пакет, клімат, АБС, ЛД, выдалены сажавы фільтр, новая гума, 7,5 л/100 км, круіз, ТА да 2014 г., гарт, тэрмінова, 9800 у.а. Т. (8-033) 3144637.*

• Дыскі металічныя R16 5х112, 4 шт., каўпакі Аўдзі. Т. (8-029) 6310734.

• Гума зімовая 225/70/16, імпартная, 4 шт. Т. (8-029) 7046266.

• Колы, 4 шт., зіма, "Туд'ер", 200 у.а. Т. (8-029) 2693511.*

• Запчасткі да а/м ФВ Джэта, 1,6 бензін. Т. (8-029) 6809579.*

• Запчасткі да ВАЗ 2105, б/у. Т. (8-029) 6281166.



**Размясці сваю аб'яву не менш за тры разы, і яе прачытаюць у Інтэрнэце на сайце RH.by**

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО (У Т.Л. ВАЗ); КРЫЛЫ, КАПОТЫ, ПАРОГІ, РАМ. УСТАЎКІ АРАК І ІНШЫХ ЧАСТАК КУЗАВА. А ТАКСАМА ЛЮСТЭРКІ, МОЛДЫНГІ, БАМПЕРЫ, ПАДКРЫЛКІ І ШМАТ ІНШАГА.** ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, (8-044) 7640814.*

• Дыскі літыя, б/у для а/м Опель Сінтра R16, 5х115 і дыяметр цэнтра адтуліны 71 мм. Т. (8-029) 3498670.

• Рухавік на запчасткі, турба дызель 1,8 ад Фіят Добла, 2001 г.в. Т. (8-029) 3550763.

### КУПЛЮ

• А/м 1985-2012 г.г.в. **ЛЕГКАВЫ** ці **БУС** у любым стане. Т. (8-033) 6008152.*

• А/м іншамарку да 2000 у.а., можна аварыйную, з праблемамі. Т. (8-029) 7088846.*

• А/м іншамарку ў любым стане. Т. (8-029) 6544347, (8-029) 5036715.*

• А/м легкавы, мінівэн, джып, у любым стане, хутка. Т. (8-044) 4727990.*

• А/м Масквіч 408-412 у любым стане. Т. Вэлком (8-029) 6517444.

• А/м у любым стане, можна аварыйны ці бус. Т. (8-029) 6703397.*

• **А/М У ЛЮБЫМ СТАНЕ. ДОРАГА! Т. (8-044) 7601222.**

• А/м, можна з праблемамі, разгледжу ўсе варыянты. Т. (8-044) 5401796.*

• Прычэп да легкавога аўтамабіля, можна без дакументаў. Т. (8-029) 3811905.

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 1,5-пакаёвая кватэра ў в. Яхімоўшчына, 39,8 кв.м. Т. (8-029) 2506379.*

• 1-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, Мінская вобласць, зав.Паляны 1-й, 1969 г.б., 31,5/19,8/11,7. Т. 761660, МТС (8-029) 2761676, Вэлком (8-029) 1761626. ПУП "Квадратны метр", вул.Прытыцкага, 21. УНП 190003285. Ліц. МЮ РБ №02240/0069535 ад 29.01.10 г. да 17.02.2015 г.

• 1-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, цэнтр, часткова з мэбляй. Т. (8-01771) 39626.*

• 1-пакаёвая кватэра ў Маладзечне, 1 паверх, 34,6/18,8/7,7, 25000 у.а. Т. 768977.

• 1-пакаёвая кватэра ў Маладзечне, 6 мкр., 1 паверх 5-павярховага панэльнага дома, 38,1/ 17,5/ 8,8, санвузел раздзельны, кладоўка 1,8, падвал. Т. (8-0176) 74-48-83, Вэлком (8-029) 3671871.*

• 1-пакаёвая кватэра ў Маладзечне. Т. (8-029) 6758773.*

• 2-пакаёвая кватэра па вул.Вальцы, 1/3 цаглянага, 44,1/27,5/5,1, магчымы перавод у нежылы фонд. Т. 761660, МТС (8-029) 2761676, Вэлком (8-029) 1761626. ПУП "Квадратны метр", вул.Прытыцкага, 21. УНП 190003285. Ліц. МЮ РБ №02240/0069535 ад 29.01.10 г. да 17.02.2015 г.

• 2-пакаёвая кватэра ў а.г.Ілья Вілейскі р-на ў 2-пакаёвым панэльным доме, агульная плошча 48,1, жылая 30,7, кухня 7,5, паасобны санвузел, балкон зашклёны, драўляны гараж, 60 км ад Мінска, 9 км ад Вілейскага вадасховішча, усе выгоды. Т. (8-01771) 76167, (8-029) 9357800.

• 2-пакаёвая кватэра па вул.Крынічнай, 1997 г.б, 48,8/28,0/8,8, 8/9-панэльнага, балкон, лічыльнікі на ваду, газ. Т. 761660, МТС (8-029) 2761676, Вэлком (8-029) 1761626. ПУП "Квадратны метр", вул.Прытыцкага, 21. УНП 190003285. Ліц. МЮ РБ №02240/0069535 ад 29.01.10 г. да 17.02.2015 г.

• 2-пакаёвая кватэра па вул.Крынічнай, 1997 г.б, панэльны, 49,4/28,5/8,8, балкон зашклёны, тэлефон. Т. 761660, МТС (8-029) 2761676, Вэлком (8-029) 1761626. ПУП "Квадратны метр", вул.Прытыцкага, 21. УНП 190003285. Ліц. МЮ РБ №02240/0069535 ад 29.01.10 г. да 17.02.2015 г.

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы па вул.Гагарына, 12. Т. (8-029) 3672399.*

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, Мінская вобласць, вул.Кастрычніцкая, 1981 г.б.,4/5 цаглянага, 49,2/27,5/8. Т. 761660, МТС (8-029) 2761676, Вэлком (8-029) 1761626. ПУП "Квадратны метр", вул.Прытыцкага, 21. УНП 190003285. Ліц. МЮ РБ №02240/0069535 ад 29.01.10 г. да 17.02.2015 г.

• 2-пакаёвая кватэра ў Маладзечне, цэнтр, новы еўрарамонт, 50 кв.м, 46500 у.а. Т. (8-029) 9820207.

• 2-пакаёвая кватэра ў п.Беразінскае, 17 км ад Маладзечна, рамонт, зямельны участак, 19900 у.а. ці абмен. Т. (8-044) 7601222.

• 3-пакаёвая кватэра ў в.Любань, Вілейскі р-н. Т. (8-029) 5602540, (8-029) 3668238.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Маладзечне, вул. Лебедзеўская, 17-65, 8 паверх, агульная плошча 66,5 кв.м, тэрмінова. Т. (8-0176) 706047, (8-029) 3095770.*

• 3-пакаёвая кватэра, секцыя непаліраваная, шафа двухстворкавая, без пасрэднікаў. Т. 747068, (8-029) 1234600.*

• 4-пакаёвая кватэра ў а.г.Залессе, Смаргонскі р-н, S панэльнага, 1981 г.б., 79,5/48,4/8,4. Т. 761660, МТС (8-029) 2761676, Вэлком (8-029) 1761626. ПУП "Квадратны метр", вул.Прытыцкага, 21. УНП 190003285. Ліц. МЮ РБ №02240/0069535 ад 29.01.10 г. да 17.02.2015 г.

• Дача, Вілейскі напрамак, каля в.Слабодка, дом 28 кв.м, участак 5 сотак. Т. (8-029) 8575968.

• Дом у в.Лебедзева, Маладзечанскі р-н, цэнтр, участак 17 сотак, 20000 у.а., торг. Т. (8-029) 3830050.

• Дом 14 км па ходзе электрычкі, прыпынак Мясата, в.Зарэчанская, 10 хвілін хаду. Т. (8-029) 7035734.

• Дом па зав. Прыгарадны, 1977 г.б., 73,3/54,1/8,3, участак 6 сотак, цэгла, газ, усе камунікацыі, гараж, гаспабудовы. Т. 761660, МТС (8-029) 2761676, Вэлком (8-029) 1761626. ПУП "Квадратны метр", вул.Прытыцкага, 21. УНП 190003285. Ліц. МЮ РБ №02240/0069535 ад 29.01.10 г. да 17.02.2015 г.

• Дом у в.Засценак Скрыплева, Валожынскі р-н, 52,4/28,1/13,9, з бярвенняў, 21 сотка, 300 м да ракі Беразіна. Т. 761660, МТС (8-029) 2761676, Вэлком (8-029) 1761626. ПУП "Квадратны метр", вул.Прытыцкага, 21. УНП 190003285. Ліц. МЮ РБ №02240/0069535 ад 29.01.10 г. да 17.02.2015 г.

• Дом у в. Нова-Дубава, 1500 у.а. Т. (8-029) 2618175.

• Дом у в.Шылавічы, участак, прыбудовы. Т. (8-029) 2791672, (8-029) 5685612.

• Дом у Вілейцы, вул.Савецкая, 102, магчымы абмен на аўтамабіль. Т. (8-029) 6181611.*

• Дом у Вілейцы, цэнтр, вада, газ. Т. (8-044) 7308603.*

• Дом у горадзе (р-н Старое Места), гаспадарчыя пабудовы, гаражы. Т. 735520, Вэлком (8-044) 7347767, (8-029) 3406125.*

• Паўдома ў Маладзечне, рамонт, камунікацыі, 19900 у.а. ці абмен. Т. (8-029) 5531823.

• Гараж у ГБК-1 у Вілейцы, 4500 у.а., торг. Т. (8-029) 5021868.

• Гараж у ГБК-1, Вілейка. Т. (8-029) 9218536.*

• Гараж у ГБК-2 у Вілейцы, яма, падлога драўляная, падшытая столь. Т. (8-029) 5537683.*

• Гараж у ГБК-3 У Вілейцы, вул.Незалежнасці. Т. МТС (8-029) 7667446.

• Катэдж у Вілейцы 2-павярховы. Т. МТС (8-029) 8751433.*

• Участак у в.Іванцавічы. Т. (8-029) 8598222.

### КУПЛЮ

• Дом у вёсцы, магчыма пад знос, да 20-ці км ад Маладзечна, да 3000 у.а. Т. (8-029) 3811905.

• Участак для будаўніцтва дома, недабудаваны дом у Маладзечне або прыгарадзе. Т. (8-029) 6262756, 2505060.*

### МЯНЯЮ

• 2-пакаёвую кватэру, 42 кв.м агульная плошча, з усімі выгодамі ў прыватным доме, цэнтр, на кватэру большай плошчы. Т. (8-01771) 77102, (8-029) 7518172.*

• 3-пакаёвую кватэру ў Вілейцы на 2-пакаёвую ў Вілейцы з даплатай альбо прадам. Т. (8-029) 5012601*

### НАЙМУ

• 1-2-пакаёвую кватэру ў цэнтры Маладзечна для маладой сям'і (ёсць дзіця), пажадана са свежым рамонтам, на доўгі час. Добрыя гаспадары, гарантуем чысціню і своечасовую аплату. Т. (8-029) 5777020, (8-033) 6612108.*



* *Аб'явы, адзначаныя зорачкай, змешчаны ў Інтэрнэце на сайце RH.by*

## Прыём дробных аб'яў

| | |
|---|---|
| **Маладзечна** | Вялікі Гасцінец, 68а. Тэл. **753841, 769667.** |
| **Астравец** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. **21140.** |
| **Ашмяны** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. **45211.** |
| **Валожын** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. **55542, 55237.** |
| **Вілейка** | вул. Вадап'янава, 23, магазін «Парус». Тэл. **55284.** |
| **Вілейка** | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. **55233, 55539.** |
| **Мядзел** | вул. 17 Верасня, 2, пошта. Тэл. **55266, 55431.** |
| **Смаргонь** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. **33077.** |
| **Чысць** | вул. Зялёная, 4, магазін «Канцкласік». Тэл. **799172.** |

• Кватэру для маладой дзяўчыны. Т. (8-029) 3635587.*

• Кватэру ў Вілейцы для сям'і з 2-чалавек, тэрмінова. Т. (8-025) 6243636.

• 1-2 пакаёвую кватэру для маладой сям'і з двума дзецьмі, тэрмінова. Т. (8-025) 9428511.

**ЗДАМ**

www.kdv.by
Квартиры для Вас
ИП «Кватэры для Вас». УНП 490697092
Здаюцца **1-2-3-пакаёвыя кватэры**. Пасутачна. Камандзіраваным прадастаўім справаздачныя дакументы. Ф/а любая. Размесцім гасцей. Магчымае браніраванне. Працуем па РБ.
**Тэл. (8-029) 371-11-10**

**ІНШАЕ**

• **ВАЗЬМУ Ў АРЭНДУ ПАМЯШКАННЕ З ХАЛАДЗІЛЬНАЙ КАМЕРАЙ. Т. (8-029) 6432425.** *



## ПАСЛУГІ

**ДЛЯ МАЛАДЫХ**

• **"МАДЛЕН"** – новае паступленне еўрапейскіх мадэляў. Маладзечна, вул. Валынца, 12, 2-паверх. ІП Кароль Т. Н. УНП 690494373. Т. (8-029) 3611420.*

• **"МІЛЭДЗІ"** – вясельныя ўбранні. Вялікі выбар. Маладзечна, вул. Віленская, 12 (атэлье "Бярозка"). ІП Казлоўская Т.І. УНП 690154367. Т. (8-0176) 777382, (8-029) 3677382, (8-029) 2727483.*

• **"НАДЗЕЯ"** – вясельныя, вячэрнія, дзіцячыя ўбранні. Маладзечна, ГАЦ "Модуль", месца №63. ІП Лініцкая Г. С. УНП 600328327. Т. (8-029) 3024418.*

• **ПРАКАТ БЕЛАГА ЛІМУЗІНА. КАДЗІЛАК.** ІП Аладка А.І. УНП 690337519. Т. (8-029) 3483306.*

• Музычнае абслугоўванне вяселляў і іншых урачыстасцей. Т. (8-029) 6188716.*

**ГРУЗАПЕРАВОЗКІ**

• **IVECO**, бартаваны, тэнтаваны, да 4 т, 23 куб.м, усе віды загрузак, РБ, РФ. ІП Хруцкі А.П. УНП 691297090. Т. (8-033) 6666687, (8-029) 5777020.*

• МАЗ, самазвал 10 т; пясок, гравій, ПГС, раствор, бетон, вываз смецця. ІП Сушко А.А. УНП 690690644. Т. (8-029) 7588449 МТС, (8-029) 3385358 Вэлком.*

• Мерседэс 809, ГП, 5т, 30 куб.м, тэнт, санпашпарт, па РБ. ІП Лавар А.А. УНП 690388223. Т. (8-029) 1343052, (8-029) 5686412.*

• Рэно Маскот, 3,5 т., 20м3, 4,5мх2,2х2,2, усе віды загрузкі, ёсць санітарны пашпарт. ІП Маляўка А.В. УНП 691502867. Т. (8-029) 2525329, (8-029) 6925329.*

**ІНШЫЯ ПАСЛУГІ**

• Адзенне для будучых мам, пастаянна. Рэчавы рынак (рад 13, месца 13). ІП Кучынская Н.Н. УНП 600378912.*

• **АЎТАЭЛЕКТРЫК**. Камп'ютарная дыягностыка. Устаноўка сігналізацыі, рамонт электраабсталявання. УНП 690383566. ІП Бандарэнка А.К. Т. (8-029) 5717325.*

• **БУДАЎНІЧЫЯ РАБОТЫ** любой складанасці (унутраныя, вонкавыя), а таксама выкананне **МАНАЛІТНЫХ РАБОТ** (лесвіцы, ганак, падмурак, перакрыцце). ІП Клінцэвіч У.В. УНП 591801143. Т. (8-029) 3337177.*

• Вывезем вашу драўніну з лесасекі. УНП 690021247. Т. Вэлком (8-029) 3833307, Вэлком (8-029) 1575122.*

• **ГУКАВОЕ І СВЕТЛАВОЕ СУПРАВАДЖЭННЕ ВАШАГА МЕРАПРЫЕМСТВА, ШОУ МЫЛЬНЫХ БУРБАЛАК, ПРАВЯДЗЕННЕ СВЯТАЎ**, упрыгожванне памяшканняў шарамі, букеты з шароў. ІП Озер О.А. УНП 691403791. Т. (8-029) 7692174, (8-033) 6525330.*

• Дах, уцяпленне, аддзелка ўнутраная, вонкавая. Вагонка. Сайдынг. Блок Хаўс. ІП Ходаль В.А. УНП 391074376. Т. (8-029) 9497847, (8-029) 8910834.*

• **ДЫПЛОМНЫЯ, КУРСАВЫЯ, СПРАВАЗДАЧЫ ПА ПРАКТЫЦЫ.** Правы, справаводства, архіваназнаўства, ідэалогія, паліталогія і інш. гуманітарныя дысцыпліны дапамажа напісаць кандыдат навук. E-mail: 6661741@mail.ru. ІП Крывіцкі Л.В. УНП 190609577. Т. (8-029) 6661741, (8-029) 7068002, з 14-00 да 17-00 або з 22-00 да 24-00, штодзённа.*

• Насціланне падлогі ўсіх відаў, работа з вагонкай і іншыя аддзелачныя работы. ІП Петрашкевіч М.М. УНП 691401071. Т. (8-029) 1113493.*

СПАБОРНІЦТВЫ

# Першынство па лыжных гонках

**МЯДЗЕЛ. 19 студзеня ў райцэнтры прайшло першынство раёна па лыжных гонках сярод школьнікаў.**

Пераможцамі ў сваіх узроставых групах сталі сярод дзяўчат **Анастасія Руткоўская, Кацярына Хацяновіч** і **Лізавета Роўда** (усе — з Будслаўскай сярэдняй школы).

Паміж хлопцаў першынствавалі **Іван Малько** (СШ №2 райцэнтра), **Андрэй Качарго** (СДЮШАР), **Антон Роўда** і **Ілья Паўлоўскі** з Будслаўскай сярэдняй школы.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**


Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

Ідуць спаборніцтвы.

КОНКУРСЫ

## У Мядзеле было "ХОРоШОУ"

**МЯДЗЕЛ. У нядзелю, 20 студзеня, у гарадскім Доме культуры адбыўся фінал раённага агляду-конкурсу самадзейных творчых калектываў арганізацый і прадпрыемстваў Мядзела і раёна "ХОРоШОУ".**

Падобны конкурс адбыўся ў раёне ўпершыню. Пачаўся ён у снежні і праходзіў у некалькі этапаў. У першым сапернічалі каманды сельсаветаў, у другім — прадстаўнікі арганізацый і прадпрыемстваў Мядзела і раёна. Сем лепшых камандаў выступілі ў фінале. Яны павінны былі выканаць адну падрыхтаваную песню, і яшчэ адну, вызначаную лёсаваннем. Яно праходзіла за гадзіну да пачатку конкурсу.

Перамагла каманда "Весялінка" тэрытарыяльнага цэнтра сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва. Пераможцаў узнагародзілі дыпломамі і падарункамі.

— Лічу, што калектывы, якія ўтварыліся дзякуючы конкурсу, павінны выступаць і надалей, — робіць выснову дырэктар раённага арганізацыйна-метадычнага цэнтра аддзела культуры **Аксана Вязевіч**. — Іх удзельнікі — таленавітыя, творчыя і артыстычныя асобы, якія выступалі з іскрынкай і запалам.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## У Вілейцы спаборнічалі інтэлектуалы

**ВІЛЕЙКА. У нядзелю, 20 студзеня, у Вілейскім раённым цэнтры дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі адбыўся сінхронны адборачны этап 20 рэспубліканскага чэмпіянату па гульні "Што? Дзе? Калі?" сярод школьнікаў старэйшага ўзросту.**

Адначасова падобныя гульні праходзілі ў розных кутках Беларусі. Напрыклад, у Мінскай вобласці былі чатыры пляцоўкі.

У Вілейцы сабраліся каманды паўночна-заходняга рэгіёна Міншчыны – прадстаўнікі Вілейскага, Мядзельскага і Валожынскага раёнаў. Усяго было 9 камандаў.

Культарганізатар цэнтра дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі **Сяргей Рыжэвіч** паведаміў, што лепшыя вынікі сярод камандаў паўночна-заходняга рэгіёна паказалі "Піраміда" з Мядзела, "Неасакрацікі" і "Алімпіус інферна" з Вілейкі.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

ЗДАРЭННІ

## У Смаргоні прыціснула прэсам рабочага

**СМАРГОНЬ. У сераду, 16 снежня, у 14.32 на пульт Смаргонскага РАУС паступіў выклік аб тым, што прэсам заціснула чалавека.**

Здарэнне адбылося на тэрыторыі завода "Кронаспан". Да месца здарэння першыя выратавальнікі прыехалі за 6 хвілін.

21-гадовага апаратара заціснула ў аўтаматычнай лініі па нарыхтоўцы ламінаванага ДВП.

Выратавальнікі Міністэрства па надзвычайных сітуацыях з дапамогай механізаванага аварыйна-выратавальнага інструмента вызвалі пацярпелага з-пад прэса.

У 14.45 яны перадалі яго брыгадзе "хуткай дапамогі". Але дактары не змаглі дапамагчы хлопцу.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**

ПАЖАР

## Пяцігадовы хлопчык загінуў у замкнёным доме

**МАЛАДЗЕЧНА. Трагедыя адбылася апоўдні 22 студзеня.**

Раніцай 22-гадовая маці пайшла на працу ў ААТ "Хоўхлава".

За хлопчыкам прыглядаў 25-гадовы муж жанчыны. Прыкладна ў 10 гадзін ён выйшаў у краму, паклаўшы дзіця спаць.

Дзверы ён замкнуў. Адсутнічаў каля гадзіны. У гэты час узнік пажар.

Выратавальнікі-пажарныя расцэньваюць кожны выпадак пакідання дзіцяці без нагляду як надзвычайнае здарэнне.

Прававу ацэнку дзеянням дарослых, якія пакінулі без нагляду дзіця, установіць следства.

**Паводле 112.by.**

## Гімназісты з "Логаса" прывезлі сем узнагарод з вобласці

**ВІЛЕЙКА. У трэцім, абласным, этапе прадметных алімпіяд удзельнічалі 10 прадстаўнікоў вілейскай гімназіі №1 "Логас". Сем з іх вярнуліся са спаборніцтваў з узнагародамі.**

Пра гэта даведаліся ў дырэктара гімназіі **Наталлі Жыбуль**.

Дыплом першай ступені атрымалі **Таццяна Мікалаевіч** (па рускай мове) і **Яўген Ручыца** (па працоўным навучанні).

Маюць вучні яшчэ тры дыпломы трэцяй ступені: **Алена Пенда** — па рускай мове, **Надзея Лапцік** — па матэматыцы, **Канстанцін Кулак** — па фізіцы.

Прывезлі гімназісты два пахвальныя лісты. **Антон Мялешкін** — па інфарматыцы, **Аліна Пятніцкая** — па працоўным навучанні.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

МІНІ-ФУТБОЛ

## Стартаваў тур чэмпіянату раёна па міні-футболе

**МЯДЗЕЛ. 16 студзеня ў фізкультурна-аздараўленчым комплексе "Мядзел" прайшлі заключныя гульні шостага тура чэмпіянату раёна па міні-футболе.**

Прадстаўнікі Мядзельскай жыллёва-камунальнай гаспадаркі ўпэўнена абыгралі каманду Будслаўскага сельсавета з лікам 5:0. Барацьба ў матчы паміж камандамі райаддзела па надзвычайных сітуацыях і Сваткаўскага сельсавета была больш упартая: завяршыўся ён з лікам 4:3 на карысць выратавальнікаў.

19 студзеня стартаваў сёмы тур чэмпіянату. Гульцы РАУС перамаглі каманду Будслаўскага сельсавета з лікам 4:3.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

ДА 150-ГОДДЗЯ ПАЎСТАННЯ ПАД КІРАЎНІЦТВАМ КАСТУСЯ КАЛІНОЎСКАГА

# Бой пад Уладыкамі



Фота globus.tut.by.

Вёска Уладыкі. Крыж на брацкай магіле паўстанцаў 1863 года летась усталявалі сябры вілейскага Таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры.




Фота globus.tut.by.

Шыльда на крыжы ў вёсцы Уладыкі.



Малюнак arche.by.

Кастусь Каліноўскі сярод паўстанцаў 1863 года. Пётра Сергіевіч, 1955.

**ВІЛЕЙКА. З успамінаў удзельніка паўстання 1863 года Эўгеніюша Кавальскага, апублікаваных у Вільні ў 1907 годзе.**

Быў дзень 16 мая.

Калі апынуўся на другім беразе рэчкі, агледзеўся наўкола. Таварышы рассыпаліся па ўсім сасновым ляску. Голасна тут было і весела. Адны, зняўшы зброю, выцягваліся на мураве, іншыя ў групках свабодна гаманілі. Праз некалькі крокаў ад мяне стаяў Казела (адзін з варыянтаў прозвішча Козела-Паклеўскага – перакладчык), распытваючы пра нешта пару сялян, што прыбеглі з вёскі. Твар камандзіра быў спакойны. Не прадказваў ніякай небяспекі.

Перада мною шумела рэчка, за якой на краі цёмнай пушчы стаяў Чыжык, які чакаў з больш чым дзесяццю чалавекамі плыта.

Я прысеў на пні, дрыжучы ў прамоклым адзенні.

Затым нашы пікеты стрэлілі адзін раз, другі… Амаль у той самы час выбухнуў залп, і град куль пасыпаўся навокал. Пачуў крык:

– У ланцуг, панове!

Але ланцуг ужо не сфарміраваўся. Мы кінуліся ў сасняк да вёскі, адны ўлева, іншыя – направа або проста наперад.

Апошні раз перад маімі вачамі прамільгнуў Казела, без шапкі, з буркай на плячах, з шабляй, узнесенай угору. Адразу перамяшаліся капралы і ўзводы. Кожны ляцеў слепа наперад, прагнучы інстынктыўна не пусціць непрыяцеля ў лясок, які застаўся нашым адзіным паратункам.

Калі першыя кулі прасвісталі над галавой, валасы на імгненне ўсталі дуба.

Імгненна зразумеў, што гэтая сітуацыя для нас пагібельная!.. Пасля ўжо не адчуваў ніякага страху, прагнучы, як і ўсе, каб прадаць сваё жыццё як найдаражэй.

Бегучы ўлева, наткнуўся на ланцуг маскоўскай роты, які шырока расцягнуўся. Колькі разоў рыхтаваўся да стрэлу, як нехта весела, са смехам з-за маёй спіны укладаў салдата трупам.

Быў гэта Алойзы Вітkоўскі, адзін з самых адважных і вясёлых нашых таварышаў.

Раптам зноў збоку грукат і дым. Куля праляцела ля майго твару, але і я упярыў цэлы зарад карцечы ў плечы жаўнера, што ўцякаў. Схапіўшы яго карабін, падняў, крычучы:

– Бярыце, каму патрэбны!

– Такога паскудства ніхто не хоча, – крыкнуў Віткоўскі, бегучы далей і зараджаючы зброю.

Тым часам сонца, выглянуўшы з-за хмар, разліло свае паўдзённыя промні. Тады і ўбачылі мы на пагорку пад вёскай сканцэнтраваную расійскую пяхоту, якая малымі падраздзяленнямі ў фуражках атакоўвала нас. Некалькі разоў яе ланцугі, калі стрэлы паўстанцаў паклалі некалькіх жаўнераў, раптоўна адступалі, але па камандзе вярталіся зноў. Найбольш атакоўвалі і абсыпалі кулямі месца нашай пераправы праз рэчку, дзе жменька паўстанцаў абаранялася ў роспачы. Кулі не ашчаджалі і флангаў. У нашай грамадзе, якая складалася з больш чым дваццаці чалавек, падалі адзін за адным. Раптам убачыў ля сябе Леапольда Асвянцімскага, які голасна крыкнуў:

– Пастраляюць нас тут, па нагах цаляюць. – На зямлю, панове, у ланцуг!

Умомант мы пападалі пасярод кустоў, страляючы ў бок ворага. Аднак наша зброя не дабівала так далёка. Праз нейкі час заўважылі, што мы ўжо за межамі дасягальнасці агню. Кола маскоўскага ланцуга, якое сціскалася, нас абмінула. І хаця цяпер небяспека нам не пагражала, пару братоў-шляхцюкоў, якія паддаліся паніцы, прыходзіла да прытомнасці.

Адзін з-пад Даўгінава, якога, калі б я быў партрэтыстам, і сёння б намаляваў, ляжачым на спіне з дубальтоўкай пад галавой, з аслупянелымі вачамі, упёртымі ў неба, шаптаў як у экстазе малітву боскага праабражэння, нічога не ведаючы і не разумеючы, што наўкола яго дзеецца.

Не маглі мы яго вывесці са стану здранцвення. Памятаю, што нехта, падскочыўшы да яго, даў яму пстрычку ў нос. Шляхціц нават не здрыгануўся. Мы мусілі пакінуць яго ў тым стане. Несумненна, што быў пасля забіты або ўзяты ў палон.

Кананада не сціхала. Час ад часу крык трывогі ці болю працінаў паветра. Воклічы нашых глушыла расійская кананада, якая насоўвалася ад вёскі ўсё бліжэй і бліжэй. Наша – сцішылася даўно… Наш галоўны камандзір першым паў смерцю. Чыжык быў на іншым беразе ракі.

Дарма ўзводныя заклікалі адразу да парадку. Пасля першых неспадзяваных стрэлаў хаос пастаянна павялічваўся. Кожны, як на паляванні, дзейнічаў асобна і біў ворага, як мог і ўмеў, не думаючы цалкам аб паразе. Сын Стрыжыслава Радзевіча зваліўся паранены ў нагу. Трохі пасунуўшыся, стаў зараджаць зброю свайму бацьку, які, лежачы пры параненым, сек ворагаў доўгі час, пакуль яго з сынам не закалолі штыхамі.

Камандзір касінераў Здзіслаў Ратынскі кінуўся са сваімі на ворага як леў, сеючы часова знішчэнне ў непрыяцельскіх шэрагах. Але слабейшыя за кулі косы хутка пападалі. Здзіслава, які быў сярод забітых і параненых, атакавалі жаўнеры. Яго брат Альфрэд Ратынскі, які ляцеў на дапамогу, паў смяротна паранены куляй. Жаўнеры, падняўшы Здзіслава на штыхі, некалькі разоў падкінулі яго на вастрыях, здзекуючыся над няшчасным. Залітага крывёй і самлелага кінулі на полі як труп. Назаўтра, сярод палеглых, знайшлі яго яшчэ жывым. Абдзёрлі дагала. Акрамя агнястрэльных ран меў больш за дзесяць колатых. Узяты ў палон, нягледзячы на вялікую страту крыві, не памёр і здужаў перажыць цяжкае і доўгае выгнанне, пасля якога з падарваным здароўем вярнуўся ў краіну і асеў на Жмудзі, бо яму было забаронена жыццё ў роднай старонцы.

**Працяг будзе.**

**Копію ўспамінаў, якія захоўваліся ў краязнаўцы з Вілейкі Яўгена ПЕТРЫКЕВІЧА, перадаў рэдакцыі старшыня Вілейскага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры Дзяніс КАНЕЦКІ.**

## КАЛЯНДАР

**690 год** з часу першага ўпамінання Вільні, старажытнай сталіцы Вялікага Княства Літоўскага (цяпер г.Вільнюс, Літва). Упершыню згадваецца ў граматах вялікага князя Гедыміна да ганзейскіх гарадоў Любека, Брэмена, Магдэбурга і Кёльна 25 студзеня 1323 г., магдэбургскае права атрымала 22 сакавіка 1387 г.)

***

**25 студзеня.** 110 гадоў з дня нараджэння Любові Мазалеўскай (1903–1964), беларускага рэжысёра, педагога, актрысы, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі.

***

**1869 год.** Нарадзіўся Адам Гіляры Гурыновіч (1869, Мядзельскі раён - 1894), паэт-дэмакрат, фалькларыст, рэвалюцыянер.

***

**27 студзеня.** 100 гадоў таму (1913) упершыню была пастаўленая камедыя Янкі Купалы "Паўлінка".

***

**28 студзеня.** 425 гадоў (1588) вялікі князь літоўскі і кароль польскі Жыгімонт III зацвердзіў Трэці Статут ВКЛ, збор законаў феадальнага права, унікальны помнік беларускай мовы, пісьменнасці і юрыдычнай думкі.

***

**70 гадоў** з дня нараджэння Міхаіла Пташука (1943–2002), кінарэжысёра, народнага артыста Беларусі.

***

**30 студзеня.** 180 гадоў з дня нараджэння Апалінара Гараўскага (1833–1900), беларускага жывапісца-пейзажыста.

***

**91 год** з дня заснавання Інстытута беларускай культуры (Інбелкульт) – першай у гісторыі Беларусі шматгаліновай навукова-даследчай ўстановы, папярэднік НАН Беларусі (г. Мінск; існаваў з 30 студзеня 1922 г. да 13 кастрычніка 1928 г.).

***

**20 гадоў** таму (1993) у Маладзечне спектаклем "Зямля" па паэме Якуба Коласа "Новая зямля" адкрыўся першы сезон у Мінскім абласным драматычным тэатры.

***

**45 гадоў** назад (1968) у Мядзельскім раёне ўведзены ў эксплуатацыю новы вытворчы комплекс Нарачанскага масласырзавода, разлічаны на 10 тон гатовай прадукцыі у суткі.

***

**31 студзеня.** 190 гадоў з дня нараджэння Яксы Пятра Быкоўскага (1823–1889), польскага пісьменніка, збіральніка і даследчыка беларускіх народных песень і абрадаў.

**Падрыхтавала Марыя БЕРАСНЕВА.**

РЫНАК

# Што можна купляць на рынку ў маразы?




Фота Аляксандры ПАРАХНІ.

Гандляры запэўніваюць, што хурма не баіцца маразоў. Санітарныя ж дактары не раяць набываць фрукты і агародніну ў такое надвор'е.

**МАЛАДЗЕЧНА. АСТРАВЕЦ. З надыходам моцных маразоў маладзечанцы сутыкнуліся з няўручнасцю: прывычныя гандлёвыя месцы на рынках пустуюць, тавар даводзіцца набываць у крамах.**

Калі раней рынак для людзей быў асноўным месцам для набыцця тавараў, то цяпер выбар крамаў куды больш шырокі. Але рынак застаецца важнай крыніцай свежых прадуктаў і таннага адзення.

Адразу пасля часовага закрыцця маладзечанскага рынку ў сувязі з маразам у рэдакцыю патэлефанаваў чытач і распавёў пра тое, што з-за гэтага ён не змог набыць кілбасу ў прывычным месцы. Дзверы мяснога аддзела сустрэлі яго надпісам "У адпаведнасці з санітарнымі нормамі мясны павільён не працуе". Кілбасу на рынку ён так і не набыў.

"Рэгіянальная газета" высветліла, як маразы ўплываюць на працу рынкаў.

### Гандляроў больш, чым пакупнікоў

Санітарныя нормы, якія кантралююць работу рынку, аднолькавыя па ўсёй Беларусі. Моцныя маразы могуць адбіцца не толькі на якасці прадуктаў, але і на здароўі гандляроў.

Маладзечанскі рынак часткова апусцеў у сераду, 23 студзеня, калі было 15 градусаў марозу. У гэты дзень перасталі працаваць павільёны з бакалеяй, мясам і рыбай.

Асобныя гандляры ўсё ж не пабаяліся выйсці на працу – на адкрытых гандлёвых месцах з ежы можна было набыць толькі хурму і мёд. Працавалі таксама ледзь не ўсе палаткі з прамысловымі таварамі – штучнымі кветкамі, біжутэрыяй, мяцёлкамі, кнігамі. Большасць гандляроў адзеннем таксама працавалі, хаця пакупнікам наўрад ці зручна было б прымяраць абноўкі пры –15 градусах. Гандляры былі ў валёнках, грэліся напоямі і, сабраўшыся ў групкі, размаўлялі: іх саміх было больш, чым пакупнікоў.

### У Астраўцы рынак не працуе з пачатку студзеня

– Калі казаць пра ўмовы захоўвання прадуктаў пры гандлі на рынку, то тут ёсць свае абмежаванні, – гаворыць **Вячаслаў Саковіч**, памочнік галоўнага доктара-гігіеніста санэпідстанцыі Астраўца. – На вуліцы садавіну і гародніну забараняецца прадаваць пры тэмпературы ніжэй за нуль. Іншыя тавары – кава, маянэз, крупы – маюць свае ўмовы захоўвання, пазначаныя на маркіроўцы. Свае тэмпературныя межы мае і праца гандляроў. У халодны перыяд года тэмпература ў павільёнах павінна быць +15-20 градусаў. Калі яна апускаецца ніжэй, гэта стварае небяспеку для здароўя людзей, і павільёны перастаюць працаваць ужо на наступны дзень.

Тыя гандляры, што застаюцца на марозе ў адкрытых гандлёвых пунктах, працуюць на свой страх і рызыку. Санітарныя службы кажуць ім аб сваіх рэкамендацыях, але рашэнне кожны гандляр прымае самастойна.

Тое ж тычыцца і гандляроў, якія прадаюць прамысловыя тавары. Вядома, што маразы не пашкоджаць адзенню ці сельскагаспадарчай тэхніцы. А вось за сваё здароўе кожны з іх адказвае сам.

– Астравецкі рынак не працуе ўжо з пачатку студзеня, – дадае Вячаслаў Саковіч. – Справа ў тым, што ў нас няма крытых павільёнаў. Наш рынак – адкрытае месца, дзе прадаюць у асноўным садавіну і агародніну. Таму гандаль спыняецца тут з надыходам мінусавой тэмпературы. Застаюцца толькі асобныя гандляры, якія прадаюць прамысловыя тавары.

### Ці шкодзяць маразы прадуктам?

– Калі на вуліцы мінусавая тэмпература, лепей не набываць прадукты на рынку, – кажа загадчыца аддзялення гігіены харчавання маладзечанскага Цэнтра гігіены і эпідэміялогіі **Тацццяна Кугара**. – Для таго, каб прадавацъ на вуліцы садавіну ці агародніну, тэмпература мусіць быць плюсавой. У моцныя маразы лепш набываць такія прадукты ў крамах ці крытых павільёнах, дзе падтрымліваецца патрэбны тэмпературны рэжым.

Падмарожаныя прадукты нельга назваць шкоднымі для здароўя. У адрозненне ад падгніўшых садавіны і агародніны, яны не ўтрымліваюць штосьці небяспечнае. Затое яны губляюць свае карысныя ўласцівасці.

– У кожнага прадаўца на рынку мусіць быць тэрмометр – як на прылаўку, так і халадзільным абсталяванні, – дадае Тацццяна Кугара. – Каб ахвотныя маглі праверыць тэмпературу. Тое ж датычыцца і продажу мяса. Для ахаладжанага аптымальная тэмпература ад 0 да +2 градусаў, для замарожанага – каля –18 градусаў.

**Аляксандра ПАРАХНЯ.**

ШТО РАБІЦЬ?

## Як зімой прымераць адзенне на рынку?

**МАЛАДЗЕЧНА. У моцныя маразы ўзнікаюць праблемы не толькі ў прадаўцоў, але і спажыўцоў.**

Як памераць кофту ці сукенку ў моцныя маразы?

### Некаторыя ходзяць у прымерачную

– На рынку ў мароз ці ў дождж не кожны захоча штаны мераць, – тлумачыць прадаўшчыца Таіса. – Тады пакупнікі даюць мне грошы за поўны кошт тавару і ідуць прымяраць спадніцу ў прымерачную. Тым больш, што яна бясплатная. У тым выпадку, калі, напрыклад, спаднічка ці сукенка не падыходзіць, жанчыны бяруць на памер меншую ці большую.

### Пашпарт – гэта ненадзейна!

Прадаўцы адмаўляюцца браць у заклад за рэч пашпарт. Яны лічаць гэта ненадзейным. Тым больш, яны не маюць права браць у заклад пашпарт, гэта парушэнне закона.

– А ці мала чый гэта пашпарт? – кажа яшчэ адна прадаўшчыца. Можа, хто-небудзь захоча падставіць чалавека. – А можа быць такое, што гэты дакумент апынецца пратэрмінаваным.

### Можна ўзяць тавар дадому

Некаторыя бяруць з сабой сантыметр. Пакупнікі мераюць свой аб'ём, абхват грудзей.

Часцей за ўсё прадаўцы прапануюць узяць тавар дадому. Вяртаюць тавар пакупнікі рэдка. А калі спадніца не падыходзіць па памерах, то прадавец без ніякіх прэтэнзій да пакупніка або верне грошы, або абмяняе тавар.

### Хуценька распрануўся – хуценька апрануўся

– Ёсць сярод людзей і смельчакі! Хуценька распранаюцца, потым у такім жа хуткім рэжыме і апранаюцца, – кажа Таіса. – Адразу ўзялі, памералі – і ніякіх праблем. Ні тавар вяртаць не трэба, ні рызыкаваць! Але ўсё ж такі зімой цяжка прадаць нейкі тавар. Зразумела, што холадна моцна і жаданне ў пакупнікоў на абноўкі не такое, як летам ці з прыходам вясны.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**

КАЗКА

# Пра божую кароўку

Жыў-быў жучок. А жучок той меў чырвоны каптанік, а на каптаніку – чорныя кропачкі: адна, дзве, тры, чатыры, пяць, шэсць, сем. Звалі жучка божая кароўка.

Татка ўбачыў яе на стале ля акна, там, дзе найбольш свяціла сонейка. Божая кароўка грэлася на сонейку. Татка паклаў памаленьку каля божай кароўкі руку, і яна ўзлезла. Лезла па руцэ, па пальцах, па маленькім пальцы.

Іванка таксама паклаў памаленьку ручку каля рукі таткавай, і божая кароўка перапезла з яго рукі на ручку Іванкаву. Лезла па Іванкавай ручцы, па пальцах, па маленькім пальцы.

А пасля не ведала, куды лезці.

Раскрыла чырвоны каптанік, на якім былі чорныя кропачкі: адна, дзве, тры, чатыры, пяць, шэсць, сем – і паляцела.

Куды ўсё ж паляцела божая кароўка, куды?

Паляцела да сонейка.

**З кнігі "Іванка" Францішка Тэнчыка.**
**З чэшскай мовы пераклала Яўгенія Чаплінская.**



Малюнак raskraska.ucoz.ru

**Размалюй, выкарыстаўшы сем колераў вясёлкі.**

Намалюй столькі чорных кропачак, колькі іх было на каптаніку божай кароўкі. Падлічы, колькі іх, і запішы лічбу:



**А цяпер няхай дзеткі выканаюць наступныя заданні**

*1. Як звалі жучка, якога знайшоў татка Іванкі?*
*2. Палічы, колькі чорных кропачак на яго каптаніку? Намалюй іх.*
*3. Якога колеру каптанік божай кароўкі? А якога колеру кропачкі?*
*4. Пакажы пальчыкамі, як лезла божая кароўка па ручцы Іванкі?*
*5. Што зрабіла божая кароўка, калі не ведала, куды лезці?*
*6. Пакажы, як паляцела божая кароўка?*
*7. Куды яна паляцела?*



**Вітаю цябе, мой сябар! Я – бобрык Рэгіян. Запрашаю цябе ў захапляльнае падарожжа па старонцы, якую падрыхтавалі спецыяльна для цябе. Тут ты знойдзеш і гульні, і размалёўкі, і цудоўныя казкі.**

## Зімовыя загадкі



*Зорка снежна белая*
*на рукаў мой узляцела,*
*Пакуль нёс яе сюды –*
*стала кропляю вады.*

(Сняжынка)

*Узімку пад нагамі ляжыць,*
*А ўлетку яго не знойдзеш.*

(Снег)

*Улетку адпачываюць,*
*А ўзімку дзяцей катаюць.*

(Санкі)

*Шар пастаўлены*
*на шар,*
*Нос чырвоны*
*на ўвесь твар,*
*Рот і вочы –*
*вугалькі.*
*Адгадайце,*
*хто такі?*

(Снегавік)



Малюнак katalinlife.blogspot.com.

**Загадкі belzag.blogspot.com.**

ЛАБІРЫНТ

## З Маладзечна – у Вілейку

Бобрык Рэгіян збіраецца ў дарогу. Дапамажы яму знайсці самы хуткі шлях з паравозіка ў Маладзечне, каб ён мог сустрэцца з рыбкай у Вілейцы. Якія прыгоды чакаюць яго ў дарозе?

Раскажы, што адбылося ў кожным з населеных пунктаў, праз якія яму трэба было прайсці.

Не заблудзьце, каб не трапіць у Смаргонь!




Калаж "РГ".

# *Мікалай Шрымф:* "У футбалістаў вочы павінны свяціцца ад выгляду мяча, а не грошай"

**МАЛАДЗЕЧНА. Карэспандэнты "Рэгіянальнай газеты" сустрэліся з Мікалаем Шрымфам, загадчыкам аддзела фізкультуры, спорту і турызму Маладзечанскага райвыканкама, каб даведацца, якімі спартыўнымі падзеямі запомніўся мінулы год і якія чакаюць у будучыні.**

Не засталася без увагі і праблема маладзечанскага футбола, якая хвалюе многіх футбольных фанатаў.

**– Калі падводзіць спартыўныя вынікі 2012 года, чым ён запомніўся жыхарам раёна?**

– Афіцыйныя вынікі года будуць канчаткова вядомыя ў лютым. Цяпер мы можам казаць толькі пра свой уласны аналіз. У спартыўных дасягненнях у вобласці маладзечанцаў абыходзяць толькі Барысаўскі і Мінскі раёны. Але і спартыўных школ у іх больш, чым у нас.

Да таго ж відавочна тое, што ў нас развіваюцца неалімпійскія віды спорту, фінансаванне якіх з бюджэту абмежаванае. Гэта адзінаборствы, ушу, кікбоксінг. Мы маем моцныя традыцыі гарадошнага спорту і не збіраемся ад іх адыходзіць. Гэта выключна славянскі від спорту, таму мы абавязкова яго захаваем.

Але і ў алімпійскіх відах ёсць пазітыўныя змены. У нас з'явіўся лядовы палац, дзе можна займацца хакеем, зала цяжкай атлетыкі, бокса і тэйквандо.

**– Якія хібы мінулага года варта выпраўляць у гэтым?**

– Вядома, працаваць ёсць над чым. Праблемай застаецца трэці ўрок фізкультуры ў школах. Разам з аддзелам адукацыі мы плануем праводзіць сямейны спартыўны дзень па суботах, калі б бацькі маглі прыйсці разам з дзецьмі і пазаймацца ў школьных залах. Толькі каля 24% дзяцей цяпер могуць займацца фізкультурай без абмежаванняў. У астатніх павінна быць уласная праграма.

Праблема ёсць і ў тым, што бракуе маркетынгавых рашэнняў. Трэба вучыцца зарабляць грошы на тым, што мы ўжо маем. Калі казаць у лічбах, за мінулы год мы зарабілі 900 мільёнаў рублёў. У гэтым плануем 1,5 мільярда. Упэўнены, што гэта рэальна.

Застаецца ў нашым раёне і ўсебеларуская праблема – недахоп спартыўнага інвентару. Гэта проста рэспубліканская бяда! Інвентаром забяспечана толькі 25-30% дзіцячых спартыўных школ. Вядома, пасля гэтага праяўляецца і ва ўзроўні падрыхтоўкі спартсменаў.

**– Ці развіваецца ў раёне спартыўны турызм?**

– Нашы спартыўныя аб'екты запатрабаваныя на розных узроўнях, таму і шмат спартсменаў да нас прыязджае. У мінулым годзе сустракалі гасцей з Сербіі, Францыі і Славакіі, якія ўдзельнічалі ў футбольным турніры, а таксама жаночыя хакейныя зборныя з Казахстана, Турцыі. Але зноў жа не хапае інфраструктуры, каб выйсці на самы высокі ўзровень. Бо спартыўныя аб'екты павінны дапаўняцца гасцініцамі і крамамі.

Вось у студзені былі ў нас расійскія спартсмены, каля 150 чалавек. Нам не хапіла гасцініцы, каб усіх размясціць. Некаторыя жылі ў інтэрнаце эканамічнага каледжа. Гасцініца ля лядовага палаца была б вельмі дарэчы. Яе можна выкарыстоўваць у раённым маштабе, таму цягам года яна б не пуставала.

**Ці будуць уладкоўваць Маладзечанскае замчышча для турызму?**

– Імя Агінскіх шырока вядомае па ўсім свеце. Мне паказвала ініцыятыўная група, што яны хацелі б зрабіць. Але турызм патрабуе вялікіх укладанняў, зручных умоў для пражывання. На руіны турыстаў не прывязеш.

**– Якія спартыўныя падзеі парадуюць маладзечанцаў сёлета?**

– Мы ўжо атрымалі заяўку ад Федэрацыі футбола на правядзенне фіналу чэмпіянату Еўропы сярод юніёраў. Таксама горад чакае валейбол і хакей, жаночы футбол. У Чысці будзе адкрыты футбольны стадыён са штучным пакрыццём.



Фота Зоі ХРЫЦКАЙ.

**Загадчык аддзела фізкультуры, спорту і турызму Маладзечанскага райвыканкама Мікалай Шрымф.**

## Больш за палову спартыўных бюджэтных сродкаў ідзе на футбол

**– Увесь мінулы сезон не сціхалі дыскусіі наконт маладзечанскага футбольнага клуба. Якая будучыня яго чакае?**

– З большага гэта залежыць ад той ініцыятыўнай групы, якая склалася для падтрымкі мясцовай каманды. Ад яе хацелася б большай актыўнасці. Я ўпэўнены, што перш-наперш у клуба павінна быць структура.

Менавіта яна дазволіць клубу самому зарабляць грошы на сваё існаванне. Без гэтага цяпер нельга, я кажу як спецыяліст з саракагадовым стажам. І запрашаю ўсіх ахвотных да абмеркавання гэтай тэмы.

**Гіпатэтычна ці магчыма суіснаванне двух футбольных клубаў у Маладзечне?**

Гіпатэтычна магчымае.

**– Якія крыніцы даходу магчымыя для клуба?**

– Варыянтаў вельмі шмат. Можна зрабіць унёскі актыўных членаў клуба. Калі футбалісты хочуць мець сродкі на выезд, то мусяць пачынаць з сябе. Таксама зарабляць трэба з матчаў: калі каманда гуляе добра, то на яе гульні актыўна ходзяць гледачы. Гуляць трэба так, каб людзі маглі адпачыць душой на матчы. Некалі ж наш стадыён збіраў пяць тысяч гледачоў, значыць, і цяпер магчыма.

Яшчэ адна крыніца – свая гаспадарчая дзейнасць. Прадаваць ваду, поп-корн, марожанае на матчах: пры гэтым кошты можна ўсталёўваць свае, вышэйшыя, чым у крамах.

Таксама можна прыцягваць аднаразовых спонсараў. Адзін выезд абыходзіцца прыкладна ў тры мільёны, у сезоне іх каля 20. Такія спонсары маглі б дапамагаць з асобнымі выездамі. Але для гэтага трэба асабіста сустракацца з кіраўнікамі прадпрыемстваў, дамаўляцца. Яшчэ адзін варыянт – рэклама падчас матчаў. Можна нават падпісаць дагавор па рэалізацыі пэўнай прадукцыі. Важна толькі не баяцца пачынаць гэту працу з нуля.

**– У маладзечанскага клуба было шмат фінансавых праблем. Ці можна сказаць, што пераход каманды ў клуб не атрымаўся?**

– Справа ў тым, што нельга прывязваць клуб да аднаго прадпрыемства. Гэта значыць, што ў клуба будзе толькі адна крыніца даходаў. А ў кожнага прадпрыемства ёсць свае паспяховыя і праблемныя перыяды дзейнасці. Атрымліваецца, што футбалісты залежаць ад іх.

Да таго ж асноўная задача прадпрыемства – выпускаць прадукцыю, клапаціцца пра яе канкурэнтныя магчымасці. Вядома, пры гэтым спартыўны клуб адыходзіць на другі план.

**– Колькі сродкаў выдзяляецца на падтрымку футбола з бюджэту?**

– Больш паловы. Пры гэтым бюджэтныя сродкі выдзяляюцца на 40 відаў спорту. Зразумела, так не павінна быць. Выбачайце, але дарослыя мужчыны, з якіх складаюцца футбольныя каманды, могуць зарабляць грошы і самастойна! Большасць сродкаў мусіць ісці не на іх, а на дзяцей і дзіцячы спорт.

Трэба мяняць псіхалогію нашых футбалістаў. Многія гавораць: "Дайце нам грошы, і мы будзем гуляць". Але ў любым відзе спорту гэта няправільны падыход. Каманда Другой лігі стваралася для таго, каб рыхтаваць рэзерв для клубаў Першай і Вышэйшай ліг. У ёй павінны гуляць маладыя хлопцы, у якіх яшчэ ёсць час перайсці ў прафісійны спорт і прысвяціць сябе футболу. Таму я лічу, што Другая ліга мусіць быць студэнцкай і з большага трымацца на энтузіязме. У маладых футбалістаў вочы павінны свяціцца пры выглядзе мяча, а не грошай.

**– Ці можа стацца так, што сёлета маладзечанскія футбалісты не выступяць у Другой лізе?**

– Не хочацца ў гэта верыць.

**Аляксандра ПАРАХНЯ.**

▪ **БАРАЦЬБА УШУ**

## Маладзечна перамагло

**МАЛАДЗЕЧНА. Восьмы міжнародны турнір па ушу ў раздзеле саньда прайшоў з 18 па 20 студзеня.**

У зале гульнявых відаў спартыўна-забаўляльнага комплексу быў усталяваны спецыяльны памост для правядзення гэтага віду адзінаборстваў.

Як паведаміў мясцовы спецыяліст **Сяргей Панцюхоў**, да нас у госці прыехалі расіяне з Кастрамской вобласці і з Варонежа, а яшчэ ўкраінцы з Вінніцы і Кіева. Беларускі бок выставіў трыццаць розных камандаў: каля дзесяці сталічных, амаль з кожнага абласнога цэнтра, з такіх райцэнтраў, як Полацк, Баранавічы, Барысаў і іншых. Арганізатары-гаспадары падрыхтавалі тры каманды: агульную Маладзечанскага раёна, а таксама клубныя "Кербэрус" і "Юны дэсантнік". Яшчэ з рэгіёну ўдзельнічала каманда "Тытан" (Ашмяны).

Увогуле сабралася 245 спартсменаў. Гэта юнакі 14-15 гадоў, юніёры 16-17 гадоў і мужчыны ад 18 гадоў. Таксама спаборнічалі юніёркі і жанчыны.

Турнір па традыцыі быў прысвечаны памяці курсанта Ваеннай акадэміі Дзмітрыя Гвішыяні, які займаўся барацьбой ушу. У 1999 годзе падчас пажару ў цягніку ён ратаваў пасажыраў, а сам загінуў.

У пятніцу адбыўся прыезд камандаў, узважванне спартсменаў і лёсаванне турнірнай сеткі. У суботу прайшлі адборачныя спаборніцтваў і папярэднія баі. Нядзеля была прысвечаная фінальным баям і ўзнагароджванню пераможцаў.

Тройка прызёраў у камандным заліку атрымалася наступнай:

**Маладзечанскі раён, горад Вінніца (Украіна), "Бусідо" (горад Брэст).**

У асобных вагавых катэгорыях лепшымі сталі дванаццаць маладзечанцаў.

Мужчыны: **Артур Баратаў** (да 70 кг), **Андрэй Дубаневіч** (да 75 кг), **Уладзімір Радзівілка** (да 90 кг).

Юніёры: **Аляксандр Еўчанка** (да 48 кг), **Вадзім Роліч** (да 80 кг).

Юніёркі: **Юлія Загорская** (да 48 кг), **Кацярына Масніцкая** (да 60 кг).

Юнакі: **Павел Скамарцоў** (да 36 кг), **Юліян Мурадзян** (да 44 кг), **Аляксей Чашун** (да 48 кг), **Аляксей Апанас** (да 52 кг), **Павел Міхайлаў** (да 70 кг).

Таксама лепшым стаў адзін юнак з Ашмянаў: **Уладзіслаў Шульжыцкі** (да 60 кг).

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

# Камент-эксперт



Прысылайце свае каментары да артыкулаў і паведамленні праз сэрвіс унізе інтэрнэт-старонкі ці на e-mail: regionnews@rh.by, regionaljnaja@tut.by SMS на нумар +375-29 67-68-420

## Што падаражэла пасля Новага года

Павялічыліся тарыфы на паслугі ЖКГ. Грошы збірае спраўна, а вось паслугі падаюць далёка не ўсе. Напрыклад, уборка пад'ездаў. У нашым доме работнікі камунальных службаў ніколі не прыбіраюць пад'езды, хоць у раздрукоўцы, якая прыходзіць жыхарам для аплаты, чорным па белым напісана, што ўборка памяшканняў агульнага карыстання, як і іх асвятленне (лямпачкі далёка не на кожнай лесвічнай клетцы), уваходзіць у абавязкі ЖКГ. Мы плацім немалыя грошы кожны месяц за тэхабслугоўванне. Мы будзем прыбіраць самі, але не бярыце з нас тады грошы. І хто кампенсуе жыхарам выдаткі за ўсе папярэднія гады? Дом у 6-м мікраракне, домакіраўніцтва № 6. *Надзея.*

## За дарогамі сочаць і ноччу

і + яшчэ і вілейскія дарожнікі чысцяць Маладзечненскі раён. *Den.*

"Дарожнікі лічаць, што ўздоўж дарог хапае смеццевых кантэйнераў, а на прыпынках – невялікіх сметніц". Калі вы кажаце, што кантэйнераў хапае, дык чаму смецце валяецца ўздоўж дарог і пры дарозе ў лесе? Што за народ наш такі дрэнны? Падкажыце, калі ласка, дзе пры дарозе стаіць хоць адзін кантэйнер? Сметніцы ёсць, не буду спрачацца. І таму, што людзі пакідаюць каля іх смецце, а не ў лесе, вы павінны толькі радавацца, а не выказваць сваё незадавальненне, што вам працы падвальвае. Куды параіце дзяваць смецце вандроўнікам?! У прыдарожных мястэчках для адпачынку я не бачыў ніводнай сметніцы, не кажучы ўжо пра кантэйнеры, і прыбіральні і наогул. Так што не трэба звальваць з хворай галавы на здаровую.

"За гэта прадугледжаны штрафы самім дарожным арганізацыям ад санэпідстанцыі за несвоечасовую ўборку". Я мяркую, што справа зрушыцца з месца толькі тады, калі гэтая санэпідстанцыя пачне штрафаваць не саму дарожную арганізацыю, а менавіта яе кіраўнікоў. Павучыцеся, як трэба працаваць, у вілейчукоў. *Алесь Раткевіч*

## Памёр адраджэнец, археолаг і гісторык Міхась Чарняўскі

Як не своечасова сышоў з жыцця вялікі чалавек. А столькі планаў было на вясну з ім. *Den.*

## Пройдзе рэспубліканскі Дзень снегу

А рэспубліканскі Дзень ледзяшоў? У гэты дзень можна праводзіць спаборніцтвы на самы доўгі лядзяш, на паяданне ледзяшоў на хуткасць, іх мастацкае афармленне, палёт фантазіі. *Ulrika.*

## На помнік Купалу ў Маладзечне няма грошай

Вы доўга думалі, каб спытаць: "А чаму б не арганізаваць збор сродкаў сярод маладзечанцаў?" Адкуль гэтыя ідэі бяруцца, з людзей грошы збіраць? Вось вы асабіста, колькі на навагодні феерверк "адшпілі"? І ці добра ён быў Вам бачны, жывучы, да прыкладу, у Вялікім Сяле або м-не Усходні? Чарговы помнік – справа добрая, але давайце гарадскімі сіламі яго ўзводзіць, а не грашыма людзей, якіх і так не хапае! *Месі.*

Для Месі.

Помнік Купалу ў Маладзечне – гэта не чарговы помнік па наступных прычынах:

1). Купала – народны паэт Беларусі. Першы народны пісьменнік і нават не па афіцыйным званні, якое толькі пацвердзіла факт.

2). На радзіме Купалы (не забываемся пра тое, што Вязынка – Маладзечаншчына) няма помніка самаму выдатнаму песняру нацыі.

3). Купала варты таго, каб помнік яму ўсталёўвалі не ўлады, а народ. І мяркую, ідэю збору сродкаў, калі яе агучыць шырэй, падтрымаюць не толькі нашы землякі, а людзі па ўсёй Беларусі. *Чарговы помнік.*

### ІНТЭРНЭТ-АПЫТАННЕ

**Кім быў Кастусь Каліноўскі для Беларусі?**

| | |
|---|---|
| 35% | Беларус, які аддаў жыццё за тое, каб яго браты атрымалі спадзеў на волю |
| 29% | Кіраўнік паўстання 1863 года |
| 28% | Быў і назаўсёды застанецца героем |
| 3% | Бунтар |
| 3% | Асоба-волат |
| 0% | Забойца |

Усяго галасоў 57

# Зіма ў Вязынцы



Фота Андрэя ВЫШЫНСКАГА.

Музей у Вязынцы.



Фота Андрэя ВЫШЫНСКАГА.

Качка ў пацерках з вады.



Фота Андрэя ВЫШЫНСКАГА.

Бюст Янкі Купалы пад снегам.

### Мінскі абласны тэатр лялек "Батлейка"

**РЭПЕРТУАР НА СТУДЗЕНЬ**

**27 нядзеля 12.00** В.Швэмберг. **"МАША І МЯДЗВЕДЗЬ"** (народная казка)

Чакаем вас, шаноўныя гледачы, у нашым тэатры па адрасе: *Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в.*

Тэл. **(8-0176) 75-36-73, 76-84-27.**

### Мінскі абласны драматычны тэатр

**РЭПЕРТУАР НА СТУДЗЕНЬ**

**ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ**

**25 пятніца 19.00 "ЧАТЫРЫ НАВЕЛЫ ПРА КАХАННЕ"** С.Злотнікаў, Л.Петрушэўская, А.Слапоўскі, В.Распуцін

**27 нядзеля 17.00 ПРЭМ'ЕРА. "БЫВАЙ, КАНФЕРАНСЬЕ!"** (спектакль -канцэрт у 2-х аддзяленнях) *Рыгор Горын*

**29 аўторак 19.00 ПРЭМ'ЕРА. "КАРОНА З КАХАННЯ"** (лірычная драма ў 2-х дзеях, прысвечаная жыццю і творчасці Янкі Купалы) *Анатоль Дзялендзік*

**30 аўторак 19.00 ПРЭМ'ЕРА. "СЯМЕЙНЫ ПАРТРЭТ З ПАБОЧНАЙ АСОБАЙ"** (камедыя ў 2-х дзеях) *Сцяпан Лабазёраў*

Тэатра мае права на замену спектакляў.

*Маладзечна, вуліца Чкалава, 7,* тэл. для даведак: **76-17-32, 75-24-17.**

E-mail: modt@tyt.by.



### РЭПЕРТУАР кінатэатра "Радзіма"

**24–31СТУДЗЕНЯ**

Фэнтэзі, прыгоды **"ЗМЯРКАННЕ. САГА. СВІТАНАК: ЧАСТКА 2"** **, 2D

24 студзеня – у 21.00

25, 30 і 31 студзеня – у 19.00

26 студзеня – у 18.30

27студзеня – у 16.00, 21.30

28-29 студзеня – у 21.00 Кошт білетаў – 30 000 (дзённы сеанс), 35 000 (вячэрні сеанс)

Навагоднія анімацыйныя прыгоды для ўсёй сям'і **"СНЕЖНАЯ КАРАЛЕВА"** 0

24 студзеня – у 17.00 Кошт білетаў – 15 000

Рэмейк усенароднай любімай камедыі **"ДЖЭНТЭЛЬМЕНЫ ЎДАЧЫ!"** **

24 студзеня – у 19.00

Прыгоды **"ЖЫЦЦЁ ПІ"** *

25, 30 і 31 студзеня – у 16.00, 21.30

26 студзеня – у 12.30, 15.30, 21.00

27 студзеня – у 13.00, 18.30

28 і 29 студзеня – у 18.00

Кошт білетаў – 27 000

0 – без узроставых абмежаванняў

* – дзецям да 12 прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагогаў

** – дзецям да 14 прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагогаў

Тэлефон для даведак: **8(0176) 77-15-92, 77-06-30.**

### СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 5 | | 8 | | | 2 | | |
| | | 7 | 1 | 9 | | 3 | | |
| | | | | | 2 | | | 4 |
| | 3 | 6 | | 2 | | 1 | 9 | |
| | | | | | | | | |
| | 7 | 9 | | 8 | | 5 | 3 | |
| 1 | | | 7 | | | | | |
| | | 3 | | 1 | 6 | 8 | | |
| | | 2 | | | 5 | | 6 | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 6 | 5 | 4 | 8 | 7 | 3 | 2 | 1 | 9 |
| 8 | 2 | 7 | 1 | 9 | 4 | 3 | 5 | 6 |
| 3 | 9 | 1 | 5 | 6 | 2 | 7 | 8 | 4 |
| 5 | 3 | 6 | 4 | 2 | 7 | 1 | 9 | 8 |
| 2 | 1 | 8 | 3 | 5 | 9 | 6 | 4 | 7 |
| 4 | 7 | 9 | 6 | 8 | 1 | 5 | 3 | 2 |
| 1 | 6 | 5 | 7 | 4 | 8 | 9 | 2 | 3 |
| 9 | 4 | 3 | 2 | 1 | 6 | 8 | 7 | 5 |
| 7 | 8 | 2 | 9 | 3 | 5 | 4 | 6 | 1 |

### ГАРАСКОП (25-31 СТУДЗЕНЯ)



**Авен.** На першы погляд нічога важнага адбывацца не будзе. Але нейкія працэсы патаемна будуць аказваць уплыў на настрой і самаадчуванне. Добра, што сумныя думкі надоўга не затрымліваюцца, ды і добрыя весткі дапамагаюць прагнаць іх.



**Цялец.** Наступае момант, калі трэба зрабіць няпросты выбар; некаму з вас прыйдзецца ўсур'ёз задумацца аб тым, ці гатовыя вы адступіць ад уласных маральных прынцыпаў.



**Блізняты.** Не будзьце такімі даверлівымі, бо гэтым могуць скарыстацца негатыўна настроеныя людзі.



**Рак.** Вам можа спатрэбіцца фінансавая падтрымка для рэалізацыі нейкай задумы. Смела звяртайцеся да сяброў ці радні – на адносінах гэта ніяк не адаб'ецца.



**Леў.** Вы экстравагантныя, выдзяляецеся ў любой кампаніі. Але, на жаль, вас адольвае раздражнёнасць, ладзіць з вамі нялёгка. Не выключаны пачатак новага рамана.



**Дзева.** Вы траціце грошы хутчэй, чым яны паступаюць. Надта вялікія расходы могуць стаць прычынай сямейных рознагалоссяў.



**Шалі.** Вы часткова страціце сваю жыццярадасную ўраўнаважанасць, часцей будзеце панурымі, сумнымі. Шукайце крыніцу пазітыву, інакш вы самі сабе ўсё сапсуеце.



**Скарпіён.** Старайцеся не накопліваць адмоўныя эмоцыі, а спакойна гаварыць пра тое, што вас не задавальняе.



**Стралец.** Трымайцеся як мага далей ад плеткароў, не давайце пустых абяцанняў. У дзелавой сферы адбываюцца перамены, якія лягуць у аснову будучых поспехаў.



**Казярог.** Памятайце, што агрэсія, раздражнёнасць і грубасць могуць дрэнна адбіцца на псіхіцы. Калі справіцца з негатывам цяжка, пастарайцеся накіраваць энергію ў карыснае рэчышча – наладзьце генеральную ўборку, выкіньце старыя рэчы.



**Вадалей.** Не крыўдзіцеся на людзей, якія гавораць вам праўду, нехаця наносячы ўдар па самалюбству, менавіта іх парады засцерагуць вас ад крызісных сітуацый у будучым.



**Рыбы.** Даверцеся ўласнай інтуіцыі, яна падкажа, вырашэннем якіх праблем можна і трэба займацца менавіта цяпер.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

ISSN 1991-7155
9 771991 715006

**Камент-эксперт**

erh.by

Выкажы сваё меркаванне пра газету ці пра асобны артыкул, паслаўшы SMS-паведамленне на нумар **+375 (29) 67-68-420,** на e-mail **regionnews@rh.by** або пакінь каментар на **rh.by**

## Чытайце праз тыдзень:

- **Наш рэгіён: мястэчка Крывічы ў Мядзельскім раёне. Гісторыя і сучаснасць.**

### НАДВОР'Е

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| **Мінск** | -12 / -10 | | -17 / -14 | | -17 / -14 | | -16 / -8 | |
| | 743 | ↘ 1 | 746 | ↑ 3 | 747 | ↑ 5 | 745 | ↑ 5 |
| **Вільня** | -14 / -9 | | -18 / -13 | | -17 / -13 | | -17 / -12 | |
| | 754 | ↘ 1 | 755 | ↑ 4 | 755 | ↑ 5 | 753 | ↑ 5 |

Тэмпература паветра / Воблачнасць ападкі; Ціск (мм рт. сл.) / Хуткасць ветра м/с; Усход, захад па Маладзечне

Усход 9.09
Захад 17.41
Даўжыня дня 8.32

Усход 17.22
Захад 8.12
Квадра 3

**26 студзеня, субота**

| Горад | Тэмпература | Ціск | Вецер |
|---|---|---|---|
| Віцебск | -19 / -14 | 752 | ↖ 4 |
| Гродна | -12 / -13 | 753 | ↖ 2 |
| Мінск | -17 / -14 | 746 | ↑ 3 |
| Магілёў | -23 / -18 | 754 | ↖ 2 |
| Брэст | -14 / -11 | 750 | ← 4 |
| Гомель | -20 / -18 | 757 | ↖ 4 |

### ПРЫКМЕТЫ

- На Таццяну звычайна бывае мароз. Дзень сонечны – рана прыляцяць птушкі з выраю, калі ідзе снег – лета будзе дажджлівае.
- Апанас (31 студзеня). Хавай нос у апанасаўскі мароз. У поўдзень сонца – вясна будзе ранняя.

### АДЗІН МОМАНТ З ЖЫЦЦЯ МЯДЗЕЛА



Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

**19 студзеня, на Вадохрышча, у купелі на возеры Мястра ў Мядзеле акуналіся і маладыя, і пажылыя людзі.**

### ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

# Ці варта беларусам адзначаць Таццянін дзень?



**Дар'я Ярашэвіч, навучэнка:**

– Я ведаю, што такое свята існуе, але не адзначаю яго. У мяне нават і Таццян знаёмых няма, каб віншаваць.



**Вікторыя Каснарэвіч, аддзел маркетынгу:**

– Я ўвогуле не бачу сэнсу адзначаць гэты дзень. І ніколі не лічыла гэты дзень за свята. Святкавала толькі Дзень студэнта.



**Лізавета Грышан, мадэратар:**

– Так. У нашай сям'і святкуецца гэты дзень. Гэта добрая нагода, каб сабрацца ўсёй сям'ёй. У мяне бабуля Таццяна і сястра таксама Таццяна, але падарункаў мы ніякіх не дорым.



**Вера Крэмза, пенсіянерка:**

– Канешне, трэба адзначаць! Ёсць святая Таццяна. Мне прыемна віншаваць сваю дачку і маці, якія маюць гэтае імя. Бо сваю дачку я назвала ў гонар сваёй маці. І кожны год у гэты дзень мы збіраемся за святочным сталом. І ўвогуле я добра стаўлюся да імянных святаў.



**Дзмітры Гамолка, студэнт:**

– Я абыякава стаўлюся да Таццянінага дня. І яго не адзначаю. Памятаю, што ў школе віншавалі сваіх настаўніц.



**Алег Кісялёў, мадэратар:**

– Я адзначаю гэта свята. Сваіх сяброваў Таццян віншую. Бывае, што і маленькія падаруначкі дару. У дадатак да гэтага святкую яшчэ і Дзень студэнта. Таму атрымліваецца 2 у 1.



**Зінаіда Лаўранкова, пенсіянерка:**

– Ой, раней мы не адзначалі. І пра свята такое нават не ведалі, і добра жылося. Мы беларусы, таму гэта свята нам не пажадана адзначаць.

**Падрыхтавалі Вольга ЮРКЕВІЧ, Аляксандра ПАРАХНЯ.**



Рэгіянальная газета
Выходзіць па пятніцах. Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 6500 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях.
У розніцу – цана свабодная.
№ 4 (926) 25.01.2013.
Друкарня ТДА "Знамение". Г. Мінск, вул. Каржанеўскага, 14.
Ліц. на права ажыццяўлення друкарскай дзейнасці №02330 /0150475 от 25.02.2009 г. Зак. 51. Падпісана ў друк у 10.00 24.01.2013.

Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.
Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі РБ.